ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

20 мая 1994 г. № 20 (3742) Кошт 150 руб.

## ШТО НАС АБ'ЯДНАЕ...

***Міхась АНТОНЕНКА: «Ход гістарычных падзей склаўся так, што Беларусь атрымала сваю незалежнасць гетэраномна. Гэта значыць, што тут адыгралі рашаючую ролю знешнія фактары, а не ўнутраныя. Гэты факт для нядобразычліўцаў незалежнасці Беларусі стаў амаль галоўным аргументам для яе знішчэння і інкарпарацыі ў склад Расіі».***

**3**

## Я ВЫБІРАЮ ПРЭЗІДЭНТА

***Аляксей МАРАЧКІН: «Шмат хто кажа, што сапраўдных лідэраў на Беларусі пакуль што не відаць ці яны яшчэ не нарадзіліся. Гэта ёсць найвялікшая мана і знявага беларускага народа, у якога, нібыта, няма сапраўдных дачок і сыноў, сапраўдных патрыётаў, якія бескарысліва любяць сваю Радзіму і бачаць яе перспектыву».***

**5**

## АПОШНІ АЎТОГРАФ ЧОРНАГА ДЗЯТЛА

***Вершы Васіля ВІТКІ***

**8**





## СІНЯЯ ПРАСТОРА

«Сіні апельсін» — так першапачаткова назвалі сваю выставу, што экспануецца зараз у Рэспубліканскай мастацкай галерэі, Сяргей Кірушчанка і Тамара Сакалова. Гульня слоў, што павінна была прыцягнуць увагу гледача? На выставе пануюць фантазіі, народжаныя імпрэсіяністычнай сутнасцю тэмы. Асноўны колер экспазіцыі — сіні, ён утрымлівае спакой замкнёнай прасторы залы. Такое мастацтва лепей успрымаецца ў цішыні, якая нібыта захоўвае цэльнасць вобразнага ладу і пачуццёвую гармонію экспазіцыі.

На ўсіх выставах работы сяброў суполкі «Няміга-17» Сяргея Кірушчанкі і Тамары Сакаловай — побач. Мастакам уласціва цікавасць да магутных форм, «архаічнасць» успрымання свету. Вобразы Тамары зарыентаваны на кубізм, яе пластычная сістэма падпарадкавана не канкрэтыцы, а абстрагаваным сімвалам. У палотнах Сяргея — рытмы на аснове архаічных матываў вяртаюць пластыку, дзе некалькімі лініямі раскрываецца складаная тэма.

**Н. Ш.**

*Фота С. ГРЫЦА*



# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***18 траўня — Міжнародны дзень музеяў. На жаль, для нашай краіны гэта свята не радаснае. Бо ў гэты дзень мы не столькі прыгадваем здабыткі, колькі пералічваем страты. У расійскіх зборах — слуцкія паясы, у польскіх — партрэтная галерэя Радзівілаў, кажуць, недзе за акіянам Крыж Святой Ефрасінні Полацкай...***

***І яшчэ... Калі ў чэрвені народ абярэ ў прэзідэнты стаўленіка наменклатуры, дык ці не стане Беларусь канчаткова адзіным у сваім родзе і ў свеце Музеем камуністычных выкапняў?***

## ПАДТРЫМКА ТЫДНЯ

Прадстаўнік Расіі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый выказаў незадаволенасць тым, што руская мова, маючая статус адной з рабочых моў ААН, фактычна падвяргаецца дыскрымінацыі. У прыватнасці, на ёй не друкуюцца афіцыйныя дакументы ААН. Прадстаўнік Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый выказаў салідарнасць са сваім расійскім калегам. Сваю прамову ў падтрымку ён распачаў на ангельскай мове, а потым дэманстратыўна перайшоў на рускую.

Прэзідэнт альбо ўрад Расейскай Федэрацыі маглі б аддзячыць за гэта, выступіўшы ў падтрымку беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь. Калі б кіраўніцтва Расіі параіла беларускім расійцам і так званым «русскоязычным» паважаць мову беларускага народа, гэта толькі б паспрыяла добрасуседскім стасункам дзвюх краін.

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Апарат як сродак заваёвы пасады прэзідэнта».
*(«Народная газета», 18 траўня).*

## РЭСТАЎРАЦЫЯ ТЫДНЯ

У нашай дзяржавы няма сродкаў на помнікі Скарыне і Каліноўскаму, на мемарыял ахвярам бальшавіцкага тэрору ў Курапатах. А вось на рэстаўрацыю бюста-помніка Феліксу Дзяржынскаму, што стаіць насупраць будынка КДБ, знайшліся. Рашэнне аб рэстаўрацыі было прынята Мінгарвыканкамам 11 лістапада 1993 года. Гарадскія ўлады выдаткавалі 70 працэнтаў сродкаў, а 30 — Камітэт дзяржаўнай бяспекі РБ. Дарэчы, праз пэўны час на фасадзе будынка КДБ павінна з'явіцца «Пагоня». Але і збіваць з фасада герб БССР гаспадары будынка адмовіліся. Маўляў, гэта надта цяжка, складана, тэхнічна немагчыма. «Пагоня» будзе накладзена на БССРаўскі герб. У заказе скульптару-выканаўцу спецыяльна агаворана, што БССРаўскі герб пры гэтым не павінен быць папсаваны. Дзеля чаго такая абачлівасць? Можа, нехта спадзяецца з часам вярнуць той герб, а з гербам і той час?

## ТЭРАРЫЗМ ТЫДНЯ

У ноч з суботы на нядзелю нехта кінуў гранату ў вакно першага паверха будынка Чэрвеньскага раённага суда.

## АДЛУП ТЫДНЯ

На афіцыйны запыт Савета Міністраў РБ у праўленне Нацыянальнага банка Беларусі з просьбай выказаць сваю пазіцыю па дагавору аб аб'яднанні дзвюх грашовых сістэм атрыманы адказ з негатыўнай ацэнкай «аб'яднання». На думку кіраўніцтва Нацыянальнага банка, для Беларусі было б лепей не лезці ў «рублёвую прастору», а дамагчыся, каб Расія плаціла па міжнародных расцэнках за прысутнасць сваіх войск на беларускай зямлі і за транзіт праз Беларусь сыравіны і тавараў.

У часе нядаўніх таргоў на Міжбанкаўскай валютнай біржы ў Мінску С. Багданкевіч назваў «аб'яднанне» дарэмнай задумай.

## ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

Палякі ўжо, мабыць, і забыліся, што калісьці была ў іх грашовая адзінка пад назвай «грош» — адна сотая частка злотага (як мы пра капейку). Інфляцыя — яна і ў Польшчы інфляцыя. Аднак днямі старшыня Польскага нацыянальнага банка і кіраўнікі эканамічных ведамстваў дамовіліся аб дэнамінацыі злотага ў 10000 разоў. З пачатку наступнага года эквівалент долара складзе 2 злотыя і 63 грошы.

## КРЫЎДА ТЫДНЯ

На заходняй мяжы Беларусі нашы мытнікі затрымалі кантрабандны груз, які складаўся з 200 абразоў. 20 былі потым перададзены Расіі, бо там выявіліся іх былыя гаспадары, астатнія лічацца «бесхозными». Расія лічыць гэта несправядлівым і патрабуе ўсё. Аб гэтым паведамілі па Маскоўскім тэлебачанні. Відаць, калі б паміж нашымі краінамі была нармальная мяжа (такая ж, як паміж Беларуссю і Польшчай), не было б і падобных канфліктаў. І хай расійскія мытнікі самі вылоўліваюць сваю кантрабанду.

## ДОСЦІП ТЫДНЯ




Пад гэтым малюнкам, змешчаным у беластоцкім «Часопісе» (травень, N 5) стаіць подпіс: «Скок зайца» ў бок расійска-беларускай канфедэрацыі беларуская апазіцыя лічыць вяртаннем да мінулай эпохі».

## ПЛАГІЯТ ТЫДНЯ

У свой час аб'яднанне пракамуністычных супрацьнезалежніцкіх сіл вырашыла назвацца «Народным движением Белоруссии». Па сутнасці, гэта быў плагіят. Бо на той момант ужо існаваў і меў высокі аўтарытэт Беларускі народны фронт. Але дзе і калі камуністы паважалі інтэлектуальную ўласнасць і аўтарскае права? Цяпер «НДБ» абзавялося сваёй газетай. І зноў плагіят — «Новая народная газета». Галоўным рэдактарам названа Н. Машэрава. Як патрабуе традыцыя, першы нумар газеты адкрываецца словам кіраўніка рэдакцыйнага калектыву да чытачоў: «О чем, самом главном, хотелось бы сказать главному рэдактору, начиная это важное и нужное дело — издание новой газеты? В первую очередь, о моем отце. Как трудно нам жить без него!»

Варта, мабыць, было б удакладніць, шаноўная Наталля Пятроўна, хто гэта «мы» і каму гэта «нам»?

---

З нагоды

# ТЭАТР АДНАГО АКЦЁРА?

Людзі, знаёмыя з тэатральным жыццём, ведаюць, што здараецца, калі ў выніку рэжысёрскага свавольства альбо закулісных інтрыг галоўную ролю ў спектаклі атрымлівае не той артыст, які мае на яе маральнае (творчае) права, а бездар, якому, акрамя безаблічнай фразы «кушать подано!» ў нязначным эпізодзе, нельга нічога даверыць. У такіх выпадках спектакль правальваецца, тэатр «гарыць», спонсар губляе грошы. А калі бездар-выканаўца адначасова яшчэ і галоўны рэжысёр?!

Нешта падобнае можа адбыцца сёння і на палітычных падмостках. Спектакль — прэзідэнцкая выбарчая кампанія, тэатр — Рэспубліка Беларусь, спонсар — беларускі падаткаплацельшчык. Пакуль што, згодна рэжысуры, распрацаванай у нетрах Саўміна, мы маем «тэатр аднаго акцёра». Ды і сам спадар «рэальны прэтэндэнт», здаецца, ужыўся ў гэтую ролю і разглядае агульнанацыянальную палітычную акцыю — выбары — з прыватна-ўласніцкіх пазіцый. Днямі папярэдзіў: «У выпадку нейкіх праколаў на прэзідэнцкіх выбарах уступленне Беларусі ў рублёвую зону можа не адбыцца». Пад «праколам» маецца на ўвазе сітуацыя, калі прэзідэнтам стане не ён. Праўрадавая прэса гаворыць пра прэм'ер-міністра як пра адзіны гарант незалежнасці і ўвогуле існавання Беларусі. Усё гэта нагадвае колішні гарбачоўскі тэзіс «камуністычная партыя — гарант перабудовы». А ў жніўні 1991 года гэту партыю пазбавілі ўлады — і нічога, жывём.

Але пракол у выбарчай кампаніі Вячаслава Кебіча ўжо адбыўся, хоць сам ён пра гэта, можа, і не ведае. Днямі стала вядома прыкладная колькасць подпісаў, сабраных у падтрымку перспектыўных кандыдатаў. Прэм'ер-міністру, як вядома, мала было подпісаў дэпутатаў ВС, якія выводзілі яго ў наступны тур, яму яшчэ была патрэбна дэманстрацыя народнай любові. Цяпер каманда Вячаслава Францавіча можа сцвярджаць, што народ любіць Кебіча ў 1,7 раза больш, чым Пазняка, у 2,5 раза больш, чым Лукашэнку, у 3,3 раза больш за Шушкевіча. Але гэта — калі не ведаць, як збіраліся тыя галасы за Кебічава прэзідэнцтва. Як у вышэйшых навучальных установах на студэнтаў ціснула адміністрацыя (каму ахвота мець непрыемнасці на заліках і іспытах?); як рабочым на шэрагу заводаў давалі зразумець, што ад іхняй лаяльнасці ў адносінах да сп. прэм'ер-міністра залежыць, патрапіць альбо не патрапіць у спісы на «скарачэнне штатаў»; як агітавалі вернікаў імем Божым у цэрквах; як уздзейнічалі «чырвоныя памешчыкі» — дырэктары і старшыні на шараговую саўгасна-калгасную масу. Так што можа атрымацца, што немалая колькасць з тых 400 тысяч падпісантаў на выбарах прагаласуе за каго-небудзь з палітычных апанентаў Кебіча. Бо ад пачатку «перабудовы» і асабліва за гады, хай сабе толькі юрыдычнай, але ўсё ж Незалежнасці, у наменклатуры з'явілася рэальная, легальная апазіцыя. Ды і ўвогуле народ ужо не той, што за бальшавіцкім часам. Праўда, і люмпенскіх настрояў у беларускім грамадстве яшчэ хапае. На люмпенаў і разлічаны абяцанкі прэм'ер-міністра. Днямі ён паабяцаў, што частку валюты заходніх крэдытаў атрымае вышэйшая школа Беларусі. Але крыху раней тыя ж самыя долары сп. Кебіч абяцаў перадаць на патрэбы медыцыны. Каму ён паабяцае іх заўтра — вяскоўцам, вайскоўцам, ветэранам? Я ўжо не кажу пра расійскія рублі — гэта асноўны матыў. Між тым, настаўнікі, журналісты, іншыя работнікі так званай невытворчай сферы па колькі тыдняў не бачаць зарплаты і ў сваіх, кроўных, беларускіх рублях.

Відаць, «гледачам» трэба выказацца наконт таго, што робіцца на палітычнай сцэне, і зрабіць выбар на карысць «альтэрнатыўнага тэатра».

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

# СТЭФАНІЯ, СТЭФАНІЯ!



***Тыя, хто здолеў 12 мая патрапіць у Купалаўскі тэатр, могуць цяпер казаць тым, каму не пашанцавала, — «Шкада, што вас не было з намі!» Бо 12 мая на першай нацыянальнай сцэне адбылася падзея, без перабольшання, гістарычная — бенефіс Стэфаніі Станюты. Мінск ушанаваў выдатную актрысу і надзвычай прыгожага чалавека, нібы спяшаючыся выказаць ёй удзячнасць, захапленне, любоў.***

***Здавалася б, немагчыма ўжо спаборнічаць у кампліментах славутай Стэфаніі, а словы ўсё ж знаходзіліся — шчырыя, адпаведныя ўрачыстай нагодзе. Калі ж было мала «прозы», прасіўся верш, як гэта атрымалася ў Сяргея Грахоўскага...***

## СТЭФАНІІ СТАНЮЦЕ Ў ДЗЕНЬ ТВОРЧАГА ПАЎНАЛЕЦЦЯ

**Стэфанія, Стэфанія,**
**Зірніце хоць на міг,**
**Якая ў Вас кампанія,**
**А Вы мудрэй за ўсіх,**

**Бо маладосць — аснова**
**Пачуццяў, жэстаў, слова,**
**Што з Вамі не старэе**
**І весяліць і грэе.**

**Вам у ігры і ў танцы**
**Зайздросцяць выхаванцы,**
**Гляджу на тонкі стан і я:**
**Якая ў нас Стэфанія!**

**Сучасная і ранняя**
**Стэфанія! Стэфанія!**

**І кім Вы толькі не былі,**
**Жабрачкаю і паняю,**
**Вас шанавалі каралі**
**І мужыкі, Стэфанія.**

**Нібы французскае віно**
**У крышталёвай чашы**
**Вы упрыгожвалі кіно**
**І наша, і не наша.**

**Да тытула — НАРОДНАЯ**
**Дадаць патрэбна — РОДНАЯ!**

**Калісьці і ў наступны час**
**У храме Мельпамены**
**І ў дваццаць першы век для Вас**
**Не знойдзецца замены.**

**Работа Ваша спорная,**
**Актрыса непаўторная.**

**Каб хмары назаўжды сплылі**
**З вясноваю вадою,**
**Такою будзьце, як былі,**
**Заўсёды маладою.**

**На старасці ўсё ж саграшу...**
**І пацалую светлую душу.**
**Яна, як хваля у рацэ,**
**Ў гарачай плешчацца руцэ,**
**А каб рука дужэйшай стала,**
**Уся цалуе зала.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

*12.V.94*

# БУДУЧЫНЯ НАШАЯ БУДЗЕ СВЕТЛАЯ!

## З ВЫСТУПЛЕННЯ ЗЯНОНА ПАЗНЯКА НА XI З'ЕЗДЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Паважаныя пісьменнікі, паважаныя спадарыні і спадары! Дазвольце ад імя дэпутатаў апазіцыі Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце павіншаваць усіх вас і пажадаць вам усяго самага добрага ў жыцці і ў творчасці. Я трошкі праслухаў выказванні, выступленні пісьменнікаў і хачу на некалькіх пытаннях засяродзіць вашу ўвагу. Некалі Саюз пісьменнікаў быў той арганізацыяй, якая абараняла беларускасць, да якой звярталіся погляды ўсіх свядомых беларусаў, усіх людзей, якія мелі здаровы сэнс. Яны спадзяваліся на гэтую арганізацыю, пісалі да яе лісты і ў вашай пісьменніцкай арганізацыі былі людзі, якія адстойвалі нашу нацыю, адстойвалі наш народ, нашу культуру. Шмат хто з гэтых людзей ужо пайшоў з жыцця. Засталіся такія волаты, як Васіль Уладзіміравіч Быкаў — сумленне нашай нацыі. Але мы дажылі да такога моманту, калі з'явіліся людзі, з'явіліся сілы, якія пачалі аплёўваць наша сумленне. Гэта так. Таму я хацеў бы засяродзіць вашу ўвагу на тым часе, які мы перажываем.

Гэта час цяжкі, можна параўнаць яго толькі з канцом XVIII стагоддзя, часоў разбору Рэчыпаспалітай. Пад пагрозай наша незалежнасць. І ў гэтых варунках, безумоўна, добра было б, каб нашыя творчыя арганізацыі былі згуртаваныя. У нармальнай дзяржаве, у нармальным грамадстве творца павінен быць свабодным, ніхто не павінен заганяць яго ні ў якія шоры, не ставіць яго пад каманду і не ствараць такія структуры, каб уплываць на яго. Але гэта ў нармальным грамадстве. Мы ж перажываем такі час, калі ўсё сумленне наша, уся наша творчасць, усе здаровыя сілы павінны аб'яднацца, каб ратаваць сябе (я маю на ўвазе нас, наш народ). Таму згуртаванне быць павінна.

І другое. У нармальнай дзяржаве праводзіцца дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народа, сваёй культуры. Мы не маем ні такой дзяржавы, ні такой палітыкі ў вобласці культуры ў інтарэсах нашай нацыі, нашага народа. Гэта факт. Тым больш, што мы адносімся да такой нацыі, да такога грамадства, якое можа плённа развівацца толькі тады, калі існуе гэтая нацыянальная дзяржава, якая праводзіць гэтую дзяржаўную палітыку зверху. Ёсць нацыі, якія развіваюцца індуктыўна, спантанна. Ім не трэба дзяржава. Скажам, палякам не трэба дзяржава. Яны і без дзяржавы захаваюць сваю нацыянальную свядомасць, сваю культуру, захаваюць мову, захаваюць веру, касцёл — усё гэта пацвердзіла гісторыя. І ёсць іншыя нацыі — мы да іх адносімся, і чэхі, і балгары.. І было вялікае шчасце чэхаў, якія былі амаль поўнасцю асіміляваны, што ў іх з'явіўся Масарык, што ў іх з'явіліся тыя арганізацыі, якія стварылі дзяржаву, якія стварылі нармальны урад, і праз 20 гадоў, праз адно пакаленне, яны стварылі Чэхію, яны яе ажыццявілі. Таму я хацеў бы заўважыць, што зараз наш галоўны клопат і наша галоўная ідэя, якая павінна ўсіх нас аб'яднаць — гэта наша дзяржава, наша незалежнасць. Калі гэтага не будзе — не будзе нічога. Усе нашыя спрэчкі не маюць ніякага значэння. Калі мы будзем высвятляць нейкае пытанне, хто якую песню на што перарабіў, гэта прывядзе толькі да таго, што будуць высвятляцца нашы разлады для таго, каб ліквідаваць нас усіх.

Рускія палітыкі гавораць аб тым (я толькі паўтару іхнія думкі), што Крэмль заўсёды будзе праводзіць тую палітыку, якая выгадна імперскім інтарэсам. Ён ніколі не будзе падтрымліваць незалежнасць Беларусі. Таму што мы стаім на шляху гэтай палітыкі. І мы з гэтага павінны зыходзіць. Мы павінны прапаноўваць сваю контрпалітыку, зыходзячы са сваіх інтарэсаў, каб можна было супрацоўнічаць з гэтай дзяржавай, з гэтым народам на аснове міжнароднага права і дагавораў. Тое, што адбываецца зараз, — адбываецца аб'яднанне рускай і беларускай мафіі. І больш нічога. Пад гэта падвёрстваецца ўся палітыка. Гэта так званае «аб'яднанне». Паглядзіце, на каго зроблена стаўка ў Расіі ? На Чарнамырдзіна і яго акружэнне. Чарнамырдзін і яго акружэнне, ягоныя канцэрны валодаюць 60-цю працэнтамі акцыі нафта- і газапрамысловасці ўсёй Расіі, і ў той жа час валодаюць дзяржавай. Ім трэба бясплатны транзіт праз Беларусь. Мы губляем кожны год на гэтым 1 мільярд 900 мільёнаў долараў, у той час, калі на забеспячэнне нашай прамысловасці нафтай трэба 1 мільярд долараў. Войска расейскае нам каштуе амаль столькі ж... Сітуацыя пастаўлена такім чынам, што не будзе ніякіх палітычных дэкларацый, мы непатрэбныя, калі будуць развівацца гэтыя працэсы, мы апынемся на сваёй зямлі, але не будзем ёю валодаць. Наша маёмасць будзе чужой. Гэта страшней усялякай палітычнай акупацыі. Таму мы павінны ўсведамляць, што і ў цяжкія часы заўсёды на інтэлігенцыю, на пісьменнікаў, на мастакоў, на творчых людзей — тых людзей, якія валодаюць духам і якія мысляць універсальна — на іх заўсёды клалася вялікая місія: ратаваць нацыю. На іх была і надзея людзей. Я вельмі хацеў бы і вельмі спадзяюся, што мы ўсе зразумеем гэта.

І на заканчэнне хацеў бы падкрэсліць адзін, можа, вам здасца не вельмі істотны, момант.

Ёсць вельмі дрэннае ў вашым доме, і гэта дрэннае выражаецца ва ўпадку духу. Усе сродкі масавай інфармацыі — радыё, тэлебачанне, уся друкаваная прадукцыя — усё працуе на песімізм. Вы ўключыце любую праграму, паслухайце любое інтэрв'ю — усюды будуць стогны, што нам дрэнна, што мы бедныя, што насоўваецца распад, што няма чаго есці, што інфляцыя расце, што надыходзіць канец, мы паміраем...

Але выйдзіце на вуліцу — і вы ўбачыце іншае. Не такая сітуацыя. Песімізм нагнятаецца. А не можа выбрацца нацыя, калі яна глядзіць у магілу. Ад каго гэта залежыць? Гэта залежыць ад тых людзей, якія маюць уладу і якія маюць магчымасць маніпуляваць настроямі ў грамадстве. Вось гэты песімізм найбольш прыгнятае нашае грамадства.

Не павінна быць песімізму! Няма для яго падстаў. Кожны народ перажываў цяжкія моманты. І вайну мы перажывалі, а не было такога песімізму. Тым больш, ён не мае падстаў сёння. Сусвет пабудаваны на аптымізме. Усё, што разбурае, — не мае будучыні. Усё, што стварае, — мае будучыню. Само жыццё пабудавана на светлым, аптымістычным.

І я ўпэўнены, што нашая тысячагадовая краіна была, ёсць і будзе незалежнай. «Жыў беларус і будзе жыць!», і будучыня нашая будзе светлая...

# «СЛАВЯНСКІЯ ТЭАТРАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ»

***Міжнародны фестываль пад такой назвай адкрыўся ўчора ў Гомелі. Ён прысвячаецца 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.***

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прадставіць «Ідылію» В. Дуніна-Марцінкевіча, Гомельскі незалежны тэатр — спектакль «І пагасне святло» Б. і С. Стругацкіх, Бранскі тэатр драмы (Расія) — «Жазэфіну, ад'ютантку яго імператарскай вялікасці» І. Губача, Чарнігаўскі музычна-драматычны тэатр — «Хітрамудрую закаханую» Лопэ дэ Вэгі, а Жытомірскі музычна-драматычны тэатр (абодва — Украіна) — «Біндзюжніка і караля» І. Бабеля. Гаспадар фестывалю — Гомельскі абласны драматычны тэатр — пакажа драму Т. Рэцігана «Лэдзі Гамільтан»; Гомельскі тэатр лялек — «Каб не змаўкаў жаваранак» А. Вольскага, а дзіцячы тэатр-студыя «Сінтэз» Палаца культуры ВА «Гомельдрэў» — «Мухуцакатуху» паводле К. Чукоўскага.

Выкананне дзвюх казак, двух мюзіклаў, адной драмы, аднаго фарсу, адной трагікамедыі і адной пастаралі заахвоцілі і падтрымалі: чатыры райвыканкамы і адзін — Гомельскі — гарвыканкам, вытворча-камерцыйная фірма «Альтэрнатыва», страхавое таварыства «Гомій» ды акцыянернае таварыства «Кутэкс», акцыянерна-камерцыйны банк «Прыёргомель»; два Міністэрствы культуры — Расіі ды Украіны і адно — Беларусі — культуры і друку; упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама ды Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі.

**Ж.Л.**

З пошты тыдня

# ШТО НАС АБ'ЯДНАЕ...

У цяперашні час у грамадстве ідзе вострая палітычная дыскусія аб тым, як далей развівацца Беларусі. Асаблівую значнасць яна набывае напярэдадні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У выніку даволі працяглай дыскусіі вызначыліся два асноўныя пункты гледжання на далейшы лёс развіцця Беларусі.

Прыхільнікі так званага аб'яднання з Расіяй усяляк абгрунтоўваюць думку аб тым, што без Расіі мы загінем, што толькі Расія нас выратуе, што толькі Расія зможа забяспечыць таннай сыравінай нашу эканоміку і стаць галоўным рынкам для нашых, прама кажучы, не вельмі якасных тавараў. Іх апаненты, прыхільнікі цеснай інтэграцыі з Захадам, лічаць, што Захад нам дапаможа, што ён створыць у сябе сацыяльнае грамадства з высокаразвітой эканомікай, і нам трэба ўзяць за ўзор яго сістэму, скапіраваць яе і ісці за ім услед.

Але дзе ж тая ісціна, якая б сведчыла аб тым, якой унутранай і знешняй палітыкі трэба прытрымлівацца Беларусі, каб стаць на ўзровень перадавых краін свету?

З гегелеўскай дыялектыкі вядома, што ў гісторыі назіраюцца два шляхі развіцця і адпаведна існуюць дзве асноўныя канцэпцыі развіцця, якія паміж сабой адрозніваюцца месцазнаходжаннем крыніцы самога развіцця. У першай канцэпцыі крыніца развіцця выносіцца за межы самога аб'екта (з'явы, грамадства і г. д.). Развіццё згодна гэтай канцэпцыі ідзе як паўтарэнне, як павелічэнне і паменшэнне.

Другая канцэпцыя разглядае развіццё як адзінства супрацьлегласцей. У гэтай канцэпцыі ўся ўвага канцэнтруецца на пазнанні крыніцы самаразвіцця, яго рухальнай сілы, яго матывацыі. У сферы эканомікі гэта канцэпцыя атрымала ўвасабленне ў тэорыі рынкавай эканомікі.

Абгрунтоўваючы шляхі развіцця Беларусі, трэба зыходзіць менавіта з пазіцый гэтых двух канцэпцый развіцця. Вакол іх і ідзе дыскусія палітычных сіл, якія размежаваліся на два аб'яднанні. Урадавая каманда на чале з прэм'ерам з усяе моцы даказвае, што трэба ісці па першым шляху развіцця. Маўляў, у нас свайго нічога няма, а далучыўшыся да Расіі, мы атрымаем танную сыравіну для перапрацоўчай прамысловасці, рынкі збыту для беларускіх тавараў і стабільную грашова-фінансавую сістэму. Такую пазіцыю па ключавых момантах падтрымліваюць партыі з блоку Народнага руху Беларусі і ў першую чаргу камуністы.

У такім падыходзе развіцця робіцца разлік на тое, каб сваю нацыянальную гаспадарку развіваць у асноўным за кошт знешніх крыніц, пры гэтым ігнаруюцца альбо прыніжаюцца ўласныя магчымасці для стварэння высокаэфектыўнай і канкурэнтаздольнай эканомікі. Такая палітыка была характэрна для краін-імперый. Гістарычны вопыт сведчыць, што імперыі ва ўсе часы развіваліся ў асноўным за кошт знешняй экспансіі і абрабавання захопленых імі краін.

Прыхільнікам такога шляху развіцця трэба нагадаць, што Расія сама заўсёды імкнулася развівацца за кошт далучэння да імперыі ўсё новых і новых тэрыторый, багатых прыроднымі і людскімі рэсурсамі. І тут мы яскрава бачым супадзенне імперскіх інтарэсаў праявых колаў як Беларусі, так і Расіі.

Атрымаўшы незалежнасць, Беларусь па шэрагу грунтоўных абставін ужо не можа развівацца як імперская дзяржава. Танней сыравіны мы не маем і не будзем мець нават пры ўступленні ў склад Расіі, таму што на працягу гэтага года там пярэйдуць ва ўнутраным гандлі на сусветныя цэны. Рынку збыту для нашых няякасных тавараў мы таксама не будзем мець у Расіі, бо ўжо цяпер ён амаль поўнасцю насычаны высакаякаснымі таварамі заходніх вытворцаў, і нашым прадпрыемствам пры любым развіцці падзей прыйдзецца весці з імі на расійскім рынку вострую канкурэнтную барацьбу.

Дэмакратычныя сілы Беларусі, у тым ліку і Сялянская партыя, адвяргаюць імперскі шлях развіцця, выступаючы за рэфармаванне імперскай эканомікі і стварэнне высокаэфектыўнай рынкавай эканомікі. Мы бачым перспектыву для Беларусі ў развіцці за кошт унутраных крыніц, і ўсю ўвагу пры гэтым трэба сканцэнтраваць менавіта на пазнанні гэтых крыніц самаразвіцця. А такімі ў нас з'яўляюцца: высокакваліфікаваная рабочая сіла, дастаткова высокі навуковы патэнцыял, добра развітая вытворчая і сацыяльная інфраструктура, спрыяльнае геаграфічнае становішча, наяўнасць асноўных відаў арганічных і мінеральных рэсурсаў, высокая забяспечанасць сельскагаспадарчымі ўгоддзямі. Пералік можна працягваць і далей. Для больш поўнага выкарыстання гэтых крыніц развіцця неабходна прыцягваць і замежныя фінансавыя і матэрыяльныя рэсурсы. Але пры гэтым яны будуць адыгрываць ужо дапаможную, а не галоўную ролю ў нашым развіцці.

Што ж неабходна зрабіць у палітыцы і эканоміцы, каб трывала ўстаць на гэты шлях развіцця? У палітычным плане гэта азначае, што прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь павінен быць выбраны прыхільнік рынкавай эканомікі. А сам пераход ад імперскай да рынкавай эканомікі можа быць ажыццёўлены толькі пры ўмове выканання наступных перадумоў:

**а) ствараюцца спрыяльныя фінансава-эканамічныя ўмовы для самаразвіцця прадпрыемстваў усіх форм уласнасці без выключэння;**

**б) асноўная частка бюджэтных рэсурсаў, якія выдзелены на развіццё народнай гаспадаркі, накіроўваецца на рэканструкцыю і мадэрнізацыю буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, адначасова выкарастоўваючы дзеля гэтага і замежныя інвестыцыі;**

**в) сельская гаспадарка пераводзіцца на інтэнсіўны шлях развіцця, ажыццяўляецца дзеля гэтага эфектыўная зямельная рэформа;**

**г) фарміруецца сістэма сацыяльнай абароны маламаёмасных грамадзян.**

Мы разгледзелі філасофскі бок пытання.

Цяпер зірнём на развіццё Беларусі як незалежнай краіны з пункту гледжання сацыялогіі.

Ход гістарычных падзей склаўся так, што Беларусь атрымала сваю незалежнасць гетэраномна. Гэта значыць, што тут адыгралі рашаючую ролю знешнія фактары, а не ўнутраныя, калі незалежнасць набываецца аўтаномна ў выніку барацьбы народа за сваю незалежнасць. Гэты факт для нядобразычліўцаў незалежнасці Беларусі стаў амаль галоўным аргументам для яе знішчэння і інкарпарацыі ў склад Расіі. Маўляў, за незалежнасць ніхто не змагаўся, яе ніхто не чакаў, яна звалілася нам як снег на галаву ў ліпеньскі дзень і ад яе беларусам трэба як мага хутчэй пазбавіцца.

Гетэраномнасць працэсу вяртання Беларусі яе незалежнасці ніякім чынам не змяншае важкасці гэтай гістарычнай падзеі ў жыцці народа. Наадварот, мы павінны ганарыцца тым, што Беларусь адна з нямногіх краін, якія ў апошні час атрымалі сваю незалежнасць, атрымала яе без праліцця крыві, без гвалту, без насілля, без нацыянальна-вызваленчай або этнічнай вайны. Можна без перабольшвання сказаць, што Бог пашкадаваў у гэтым сэнсе шматпакутны народ Беларусі, і мы павінны быць удзячны яму за гэта.

Безумоўна, яшчэ не ўсе грамадзяне разумеюць, што азначае быць незалежным, якія эканамічныя і сацыяльныя выгады нясе незалежнасць. Але паступова ўзрастаючыя нацыянальная самасвядомасць і нацыянальны гонар за свой родны край аб'ядпае ўсіх нас вакол неўміручай ідэі развіцця Беларусі як самастойнай і незалежнай краіны. І толькі ў гэтым выпадку патрыятычныя і дэмакратычныя сілы Беларусі будуць здольныя атрымаць перамогу на маючых адбыцца прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах і тым самым выканаць сваё гістарычнае прызначэнне.

**М. АНТОНЕНКА,**
**намеснік старшыні Сялянскай партыі, кандыдат эканамічных навук**

Анонс

# «ДЗЕЦІ Ў БЯДЗЕ»

***Пра беларускае рэспубліканскае таварыства «Дзеці ў бядзе» грамадства наша ведае мала, хоць гэта на сённяшні дзень мо самае сумленнае і самае дзейснае дабрачыннае супольніцтва. Самае — таму што ўваходзяць у яго бацькі анкалагічна хворых дзяцей, малалетніх ахвяраў Чарнобыля. Ды яшчэ ўваходзяць кваліфікаваныя спецыялісты-медыкі.***

Змагаючыся за жыццё, здароўе ды сацыяльныя інтарэсы свайго дзіцяці, чальцы таварыства дапамагаюць усім, чые дзеці апынуліся ў бядзе. Але ці трэба тлумачыць, што й самому таварыству патрабуецца моцная матэрыяльная падтрымка: бацькоўскіх узносаў ды замежнай гуманітарнай дапамогі хапае на мінімум праграм і праектаў. Пра гэта, прынамсі, гаварылі на нядаўняй прэсканферэнцыі актывісты таварыства, а таксама вядомыя беларускія медыкі В. Алейнікава, Р. Ісмаіл-задэ, З. Гедрэвіч. Адбылася яна ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, і невыпадкова. Па ініцыятыве таварыства, прынамсі, аднаго з яго актыўных чальцоў, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага камернага хору І. Мацюхова 24 мая тут адбудзецца дабрачынная акцыя «З надзеяй на міласэрнасць». У трох аддзяленнях канцэртнага марафона бяруць удзел майстры мастацтваў Беларусі: С. Данілюк, І. Лучанок, І. Алоўнікаў, ансамблі «Песняры», «Свята», «Харошкі», «Сябры», «Верасы», Дзяржаўны камерны аркестр і камерны хор і многія іншыя. Са сваёй праграмай выйдзе ў гэты вечар у эфір студыя «Крок». Таварыства «Дзеці ў бядзе» чакае вашых прапаноў па тэлефоне: 31-89-00.

Меркаванне

***Нарэшце і мы дачакаліся. Будзе і ў нас прэзідэнт. А чым мы горшыя за іншых? У рэшце рэшт, куды ні глянь — усюды прэзідэнты. Ды і сам я, грэшны, туды ж... Ну што такое старшыня рады мастацкай суполкі «Пагоня»? Так сабе. Не гучыць. А вось прэзідэнт — ямчэй і салідней. А колькі прэзідэнтаў сядзіць у офісах розных фірмаў ды прадпрыемстваў?! Пальцаў не хопіць, каб падлічыць. Па праўдзе кажучы, можна было б падшукаць і слова тутэйшае, роднае. Ну скажам, — Бацька Рэспублікі Беларусь. Але не кожны да такога слова дарасце. Не кожны варты яго. І неяк не павернецца ў мяне язык сказаць: Бацька Айчыны — Вячаслаў Кебіч. Асабліва ў святле апошняй яго дзейнасці. Але аб гэтым ніжэй...***

# Я ВЫБІРАЮ ПРЭЗІДЭНТА...



*Малюнак Л. РАЗЛАДАВА*

Ды ўсё ж, думаю я, пра такую сур'ёзную справу, як выбары першага прэзідэнта, нельга пісаць фрывольна, як бы жартуючы. Гэта табе не жартачкі. Столькі грошыкаў упякаць у такую кампанію! Сотні мільёнаў! Хочаш не хочаш, тут кожны разважыць, хто і што яму бліжэй. А хто не любіць разважаць, каму ўсё абрыдла, таму падкажуць.

А калі вярнуцца да вытокаў усёй гэтай палітычнай кампаніі за прэзідэнцтва, то як тут яшчэ раз не нагадаць пазіцыю Беларускага народнага фронту. Яшчэ тады, напачатку, колькі гаварылася ягонымі прадстаўнікамі, што ў нашых умовах, калі парасткі кволай дэмакратыі толькі-толькі пачынаюць свае ўсходы, прэзідэнцтва на Беларусі — шлях да дыктатуры. Але, як кажуць, «вызов брошен». І парламенцкая большасць навязала ўсім нам выбары прэзідэнта. Зразумела адно, што карумпіраваныя структуры ўлады будуць адчайна адстойваць свайго прэзідэнта. Бо яшчэ не ўсё раскралі, яшчэ не да канца абрабавалі свой народ.

Так, пра ўсё гэта гаварылася апазіцыяй у Вярхоўным Савеце. І тады, калі яны адстойвалі рашэнне рэферэндуму аб датэрміновых выбарах, а іх у гэты час дэпутацкая большасць абвінавачвала ва ўсіх несусветных грахах. І тады, калі ў авальнай зале вырашалася пытанне аб прэзідэнцтве. Процістаянне нарастала. А гарластыя, агрэсіўныя дэпутаты з баявым бальшавіцкім наскокам кідаліся на лідэраў апазіцыі. І, як заўсёды, вылучаўся «праўдалюбец», «разоблачитель» А. Лукашэнка. Гэта ён як абвінавачанне праз усю залу кідаў у бок дэпутатаў апазіцыі, што ў іх няма іншых клопатаў і інтарэсаў, акрамя аднаго — «борьбы за власть». Азарт гэтага чалавека не мае межаў... Расправіўшыся са Станіславам Шушкевічам, ён думаў гэтак жа просценька скалупнуць і кабінет міністраў. Самога Кебіча. Наіўны чалавек. Тады, напачатку, у азарце яму было не ўцяміць, аб якой «борьбе за власть» можна гаварыць, калі апазіцыя выступае за самароспуск парламента. Фактычна сама сябе распускае. А зараз на хвалі «разоблачительства» Лукашэнка, бадай, ці не на самай вяршыні гэтай барацьбы. У мяне часам бывае такое ўражанне, што мы маем справу з таленавітым самавукам. Ну проста народны ўмелец! Я сустракаў такіх самародкаў, апантаных да крайнасці. Адзін з іх, разьбяр па дрэве, шчыра дзяліўся сваімі планамі: вось выражу ўсю фауну і флору, а потым вазьмуся за лепшых людзей Беларусі. Часам Лукашэнка нагадвае таго неахайнага садавода-агародніка, які ў нястрыманым энтузіязме, рвучы пустазелле, ботамі топча кветкі. Давяраць уладу такім «народным умельцам», «садаводам-агароднікам» дужа небяспечна. Яны сапраўды могуць «выразаць усю фауну і флору».

Чым бліжэй дата прэзідэнцкіх выбараў, тым больш рознагалосся ў нашым краі. Адны праводзяць навуковыя сацыялагічныя даследаванні, другія з мікрафонам у руках на аматарскім узроўні дапытліва прыстаюць да першага стрэчнага: «Якім ты бачыш прэзідэнта? Каго ты бачыш прэзідэнтам?» Такія запытанні гучаць у студэнцкіх аўдыторыях, інтэрнатах, рабочых цэхах, сярод земляробаў. Як правіла, адказы досыць стэрэатыпныя: росту сярэдняга ці вышэй сярэдняга, здаровы, стройны і прыгожы, каб не сорамна было і за мяжу паслаць; не стары, але і не задужа малады; займаецца спортам, любіць дзяцей, добры сем'янін, разумны, справядлівы і, чамусьці, абавязкова з эканамічнай адукацыяй. Як ні круці, няма спадзявання на генерала міліцыі, як і няма надзеі на былых абкамаўскіх партакратаў. Праўда, не дай Божа нам былых эканамістаў з ВПШ з іхнім эканамічным крэда «экономіка павінна быць эканомнай».

Шмат хто з маіх сяброў, а то і проста знаёмых без лішняй фантазіі разважаюць прыкладна так: выберуць таго, хто пры ўладзе ці пры добрых грашах і каго падтрымае расійскі ўрад. Тым больш, што тут, на Беларусі, суседка мае вялікі апетыт, свае інтарэсы: расейскае войска, базы стратэгічнага значэння, бяспошлінны вываз у Еўропу нафты, газа і іншых тавараў. І дадаюць далей: выдасць Кебіч указ знізіць цану на гарэлку і — пайшла «плясать губерния». А паколькі ў нас пітушчых болей, чым непітушчых, галасы яму — забяспечаны. Падкіне пенсіянерам, адзінокім маці і іншым малазабяспечаным групам насельніцтва па некалькі «зуброў» ці «арлоў» расейскіх, глядзіш — і тут пацяплела. Гэта няважна, што «Інфляцыя Пятроўна» з'есць тых «зуброў» разам з усім «заапаркам», затое ўрадавыя газеты на сваіх старонках пратрубяць пра клопаты аб гаротным народзе. Удасца ўсіх нас зацягнуць у рублёвую зону — тут жа прадэкларуюць выгоды. Гэта нічога, што кіраўнік дзяржавы парушыў яе Асноўны закон — Канстытуцыю, фактычна зліквідаваў Беларускі нацыянальны банк, суверэнітэт рэспублікі, а ў Дзяржаўнай Думе «господин» Жырыноўскі будзе рашаць пытанне аб бюджэце нашай краіны. Затое на першых парах стабілізуюць цэны, прытрымаюць «Інфляцыю Пятроўну». А калі ж з гэтага нічога не атрымаецца і стане яшчэ горш, ёсць на каго ківаць — «рука Масквы». Мы тут «ни при чём, мы хотели как лучше». І лёгенька спіхнуць усе свае грахі на «барина». Абакралі, завялі ў тупік, а — не будзе з каго спытаць. З каго ты зараз спытаеш за чарнобыльскую трагедыю? За раскраданне залатога запасу? Няма СССР і няма суб'екта нашых прэтэнзій. Не будзе рэспублікі, не будзе каму і прад'явіць гэтыя самыя прэтэнзіі.

А, можа, раптам у адзін нейкі дзень апомніцца прэм'ер-міністр, і ягоныя службы сарвуць пломбы з тайнікоў, дзе прыхавана свежаадрукаваная нацыянальная валюта. Рублі беларускія з выявай нашых геніяў. І пачнецца новая паласа. Урад на кані. Усе задаволены... Ды, па праўдзе кажучы, не веру я ў такі варыянт.

І ўсё-такі... Які ў нас будзе прэзідэнт? Пытанне, бадай што, ці не галоўнае. Кожны мусіць разважыць, ці ўрадлівы будзе плён бюлетэня, кінутага ў выбарчую скрыню. Ці не пустазеллем ён узрасце на нашай беларускай ніве. Мне б хацелася, каб пасля столькіх гадоў савецкага бязбожніцтва першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь быў веруючым чалавекам. Душа прагне такой асобы. Людзі законанепаслухмяныя перш за ўсё таму, што не выконваюць найгалоўнейшы закон — закон Божы. Такім людзям усё дазволена — красці, забіваць, ілгаць. Гэта толькі бязбожнік можа парушыць ажно чатыры пункты Асноўнага закона сваёй дзяржавы і, вярнуўшыся з Масквы, праводзіць прэс-канферэнцыю з усмешкай пераможцы.

Шмат хто кажа, што сапраўдных лідэраў на Беларусі пакуль што не відаць ці яны яшчэ не нарадзіліся. Гэта ёсць найвялікшая мана і знявага беларускага народа, у якога, нібыта, няма сапраўдных дачок і сыноў, сапраўдных патрыётаў, якія бескарысліва любяць сваю Радзіму і бачаць яе перспектыву. Я асабіста змагу назваць шэраг імёнаў людзей, якім я давяраю. Калі ж я называю гэтыя імёны, мае сябры ўсміхаюцца і кпяць з маёй наіўнасці: гэтых людзей, за выключэннем некаторых, маўляў, народ не ведае, яны не папулярныя. А вось кебічы, грыбы, лукашэнкі — на слыху. Але што такое быць на слыху? Ну хто такі быў спадар Грыб гады два таму назад, хто пра яго ведаў? Ці пра таго ж Лукашэнку, Новікава? Ці ведаў хто іх на Беларусі, скажам так, як Быкава, Гілевіча? І што пры нашай палітычнай і эканамічнай нестабільнасці пэўныя групы часам зусім выпадкова выштурхоўваюць на палітычную арэну свайго «выдвиженца». І ўжо ўкараняецца ў падсвядомасці людзей ягоная асоба, ягонае імя, і ён становіцца папулярным, знаным. Паглядзіце, як на дражджах расце папулярнасць былога сакратара ЦК КПБ, прафесара Івана Анатановіча. Амаль ці не кожны дзень праз радыё і тэлебачанне, на старонках друку мы чуем яго філасофскія страшна навуковыя аналізы і прагнозы палітычнага жыцця. Падобным папулярным «выдвиженцам» я магу скласці цэлы спіс канкурэнтаў, якія патэнцыяльна могуць стаць кандыдатамі ў прэзідэнты. Гэтым я хачу сказаць, што такія людзі ёсць у нашай краіне і, на маю думку, многім з іх можна даверыць лёс нашай краіны.

Што сказаць пра яшчэ аднаго рэальнага кандыдата ў прэзідэнты — Станіслава Шушкевіча? Былы спікер парламента — сумленны чалавек. І, мушу зазначыць, ён не заслугоўвае таго, каб апошнім часам на яго вылівалі столькі бруду. Але, любячы яго, вялікая крыўда ёсць у мяне на Станіслава Шушкевіча. Будучы на вяршыні сваёй улады, ён так і не змог пераадолець у сабе «згодніцтва» і страчваў пазіцыі адну за адной. І тады, калі вырашалася пытанне аб рэферэндуме, і тады, калі ён фактычна падтрымаў легалізацыю, аднаўленне КПБ, і калі ставілася пытанне аб калектыўнай бяспецы, рублёвай зоне. Колькі гаварылася яму з боку апазіцыі, што ад гэтых пракамуністычных ястрабаў нічога добрага чакаць не прыходзіцца, што яны не даруюць табе за тое, як ты адстойваў суверэнітэт і незалежнасць сваёй рэспублікі, нацыянальную сімволіку, дзяржаўнасць мовы. Што толькі і чакаюць зручнага выпадку, каб нанесці ўдар у спіну.

Зноў паўтару: вялікая няпраўда, што ў нас няма кандыдатаў у прэзідэнты. Яны ёсць, і гэтыя людзі любілі і любяць сваю Беларусь. Яны не будуць рабалепстваваць перад чужым дзядзькам, тым болей перад «старэйшым братам». Маючы ўласную годнасць, яны будуць адстойваць суверэнітэт краіны, яе гонар. Але пры ўсім пры тым, з іх я выбіраю Зянона Пазняка.

Пазняк — хрысціянін, глыбока веруючы чалавек. З гэтага вынікае, што ён — асоба высокай духоўнасці. Як хрысціянін, ён з павагай адносіцца да ўсіх канфесій. І толькі ягоныя непрыяцелі, людзі недалёкія, спрабуюць падзяліць па веравызнанні і канфесійнасці на сапраўдных беларусаў і несапраўдных. Толькі абмежаваныя і недалёкія хочуць увесці ў вушы, што калі Пазняк каталіцкага веравызнання, значыць ён паляк і ягоную кандыдатуру падтрымаюць толькі каталікі. Але ж нікому ў галаву не прыйдзе, што вялікі адраджэнец Беларусі Янка Купала — не беларус, бо каталіцкага веравызнання. Ніхто не скажа, што Максім Гарэцкі — рускі, бо ён быў праваслаўны. Нельга папракнуць Пазняка ў тым, каб ён хоць нейкім намёкам ці праз якое друкаванае слова, альбо ўслых зрабіў спробу прынізіць людзей іншых канфесій і веравызнання.

Сумленны, чэсны... За ўсе гэтыя гады яго як дэпутата Вярхоўнага Савета ніхто не зможа папракнуць у нядобрасумленнасці ці нейкіх там махінацыях. Другія ж шмат чаго прыхапілі за гэты час. Ён жа як меў невялікую кватэру, так і мае. Як ездзіў на грамадскім транспарце, так і ездзіць.

Інтэлігентны, разумны чалавек. Як археолаг і вучоны дасканала ведае гісторыю Беларусі. А гэта надае яму і ўсім нам разуменне, што наш народ мае глыбокія старадаўнія карані. Слаўную гісторыю.

Любіць мастацтва. Як мастацтвазнаўца дасканала ведае яго і адчувае яго вартасць. Гэта яму належаць словы: калі народ творыць, ён жыве. І яшчэ ён разумее, што мастацтва самаахвярнае, і яно не можа існаваць і развівацца без падтрымкі дзяржавы.

Зянон Пазняк нарадзіўся ў беларускай вёсцы і змалку, не па кніжках, бачыў паўсядзённыя клопаты земляроба, чалавека працы.

Ён любіць сваю радзіму, бацькаўшчыну, і, як сын свайго народа, дзеля яе ахвяруе сваім асабістым жыццём. Тое, што ён нежанаты, — а з гэтай нагоды яму часта задаюць пытанні, — гаворыць зусім аб іншым. І, калі хочаце, на яго карысць. Усім вядома, што яго дзед быў рэпрэсаваны ў 1939 годзе, а бацька і двое дзядзькоў загінулі на фронце, і ўсе клопаты па выхаванні сына ўзяла на сябе маці. І зараз, калі маці ўжо ў сталым узросце, яе адзіны сын даглядае і клапоціцца аб ёй. І хто зможа папракнуць яго гэтым?

Я галасую за Зянона Пазняка яшчэ і таму, што ён любіць парадак ва ўсім. І гэта відаць не толькі з яго знешняга выгляду. Прыйдзіце калі-небудзь у сядзібу Беларускага народнага фронту, што на вуліцы Варвашэні, 8, і вы ўбачыце ўтульнасць і чысціню гэтых пакояў, добразычлівасць яго гаспадароў. І я веру, што калі ён стане прэзідэнтам, то навядзе парадак у Беларускай Хаце, Беларускай дзяржаве.

Ведаю, шмат хто не ўспрымае Зянона Пазняка. Некаторыя з іх яшчэ жывуць пад гіпнозам артыкулаў, што некалі прайшлі праз камуністычны друк. Другія ж — па палітычных пераканаennях. Безумоўна, «цвёрдакаменны бальшавік» не ўспрымае антыкамуніста. Але гэта ўжо бяда сённяшніх банкрутаў. І, нарэшце, ёсць такія, што не прымаюць яго з-за свайго ўласнага эгацэнтрызму. Ну як прызнаць, прымірыцца з тым, што Пазняк і мовай валодае лепш, чым ты, і розуму яму не пазычаць. У мінулым не быў камуністам, і яму не прыходзілася, як табе, перабудоўвацца. І што ён болей паслядоўны і прынцыповы, чым ты. А галоўнае — Пазняк валодае выключнай інтуіцыяй, здольнасцю да глыбокага палітычнага аналізу і прагнозу. І на сёння ўсё, што гаварылася ім, — спраўдзілася.

Перакананы, што ў яго асобе прыйдзе новы палітык, які бачыць перспектыву нашай Бацькаўшчыны. Бачыць шлях у будучыню.

Аляксей МАРАЧКІН

ЛіМ
ЧАСАПІС



Адгалоскі

# ПАТРЭБНЫ ЛОЦЫІ І КОМПАС

Каго не заінтрыгуе ў «ЛіМе» за 8 красавіка загаловак «Лёс народа — лёс чалавека». І аўтар. Без акуляраў убачыў вядомае імя В. (дробненькі шрыфт) і буйным — КАВАЛЕНКА. Узрадаваўся: акадэмік уважліва прачытаў тры тамы «Анталогіі беларускай паэзіі» («Мастацкая літаратура», 1993 г.) і даў чытачам компас у моры айчыннага прыгожага пісьменства. Так, так, прыгожага, бо слова Анталогія ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае «збор кветак — зборнік лепшых выбраных вершаў аднаго або групы паэтаў».

Пачаў чытаць артыкул і — не пазнаю почырк шаноўнага акадэміка. Прыгледзеўся, аж аўтар не Віктар, а Вінцук Каваленка. Зазірнуў у «Беларускую антраланімію» — можа, па новай модзе, як з Сяргея робіцца Сяржук, так з Віктара — Вінцук? Не, справа не ў імені. Стыль і падыход не той. Вінюся ў недасведчанасці, што раней не чытаў Вінцука Каваленку, і закарцела пачуць думкі маладога, з вострым зрокам і свежым мысленнем крытыка.

Адразу правільна сцвярджае аўтар, што «адзін пералік прозвішчаў навукоўцаў і паэтаў проста вымушае чытача чакаць высокапрафесійнага акадэмічнага ўзроўню». Гэта пра рэдкалегію «Анталогіі». Яна несумненна аўтарытэтная, прозвішчы шырокавядомыя. Рэдактар 1-га тома Ніл Гілевіч у прадмове адкрывае большасці чытачоў, што **«кніжная літаратурная традыцыя на Беларусі такая ж старажытная, як у Расіі і на Украіне. Яна налічвае ўжо дзесяць стагоддзяў»**. А яе вытокі да апошняй пары наглуха замуроўвалі ідэалагічна падкаваныя і туга закілзаныя «літаратураеды». Яны далдонілі, што «Толькі Вялікі Кастрычнік стварыў беларускую літаратуру».

Укладальнікі 1-га тома Мальдзіс, Саверчанка і Саламевіч прарабілі неверагодную па глыбіні і нястомнасці працу першаадкрывальнікаў больш 30 схаваных наменклатурнымі спекулянтамі самых разнастайных аўтараў далёкай даўніны. Першы том не толькі першы помнік каштоўнейшай літаратурнай спадчыне, але і адкрыццё творчага духу далёкіх папярэднікаў.

Я не збіраюся палемізаваць з аўтарам рэцэнзіі, што пераважае ў творчасці нашых класікаў — рамантызм ці рэалізм. На колькі я ведаю, паэт не ставіць задачу, якім памерам або ў якім стылі будзе пісаць той ці іншы верш. Піша, як дыктуе сэрца, узрушанае пэўнымі падзеямі, пачуццямі, перажываннямі, назіраннямі. Не буду спыняцца на дэталях сур'ёзнага і сапраўды навуковага, з каментарыем у канцы, першага тома. Згодзен, што Купалу на 76 старонках трэба было шырэй прадставіць лепшымі ўзорамі пранікнёнай лірыкі. Не прапарцыянальна, пераважна раздзеламі «Новай зямлі», прадстаўлены Якуб Колас.

Абсалютна згодзен з аўтарам рэцэнзіі, што яшчэ ніяк не вылечваецца «старая хвароба беларускай крытыкі — «няласка» да ўсяго індывідуальнага, наўвага **да асобы, чалавека ў літаратуры»**. На вялікі жаль, гэтую хваробу прышчапілі і маладому Вінцуку Каваленку. Але пра гэта — ніжэй.

Здзівіў, часам засмуціў, а недзе і развесяліў другі том «Анталогіі» і яго аналіз рэцэнзентам. Калі б не пагартаў том, з артыкула б даведаўся, што яго склалі вершы стабільнай паэтычнай абоймы. Асабліва рэцэнзента ўзрушылі два вершы, кожны па 8 радкоў, упершыню адкрытага А. Смаленца (Ружанцова), вершы невыразныя і нецікавыя. А вось «не дацягнулі» нават быць успомненымі Краліва, Дубоўка, Пушча, Хадыка — гонар нашай паэзіі, па-за ўвагай рэцэнзента засталіся Дудар, Кляшторны, З. Астапенка, Таўбін, Трус, Вітка, Бачыла, Русецкі, Жылка, Маракоў, Дзяргай, Клішэвіч, А. Астрэйка і яшчэ дзесяткі творцаў. З маладзейшых выпалі з увагі Вінц. Каваленкі лірыкі ўсеславянскага маштабу — незабыўная Ягенія Янішчыц і Раіса Баравікова, таленавіты Сербантовіч, яшчэ неадбалелая рана — Грачанікаў. Не ўспомнены шматгадовы настаўнік моладзі і першаадкрывальнік талентаў Мікола Аўрамчык, не названы такі выдатны майстра, як Пятрусь Макаль, падзвіжнікі ў жыцці і ў паэзіі Таўлай і Жаўрук.

Складваецца такое ўражанне, што другі том рэцэнзент чытаў ці гартаў па дыяганалі і не заўважыў недаравальных недакладнасцей і ляпсусаў.

Большасць аўтараў другога тома я ведаў і ведаю асабіста, але біяграфічныя даведкі чытаю ўважліва, бо ў іх столькі фальшу і падтасовак, што дзіву даешся ў наш «дэмакратычны» час. Прыклады? Калі ласка. Адгарніце стар. 150 — Алесь Вечар нарадзіўся 25.3.1905 г. у в. Машчыцы Слуцкага раёна. Праз шэсць радкоў даведваюся, што ён стаў **«Доктарам біялагічных навук, прафесарам (1915 г.)**. Вось дык феномен: машчыцкі хлапчук у 10 гадоў — прафесар і доктар! Па-мойму — феномен рэдагавання-друкавання.

Здзівіла і 214 старонка. Чытаю: Сяргей Фамін «Працаваў у Горацкай сельскагаспадарчай Акадэміі. Памёр 4.12.1941». Фамін, бадай, самая трагічная постаць у літаратуры, залітай крывёю рэпрэсіўнай малюта-скуратаўшчыны. Яго двойчы засудзілі да расстрэлу. Першы раз памілавалі, другі расстралялі ў адным з лагераў у Комі АССР. А ён нібыта гіне на вайне ў 1941 годзе. І гэтую недакладнасць неяк можна было б дараваць, але са старонкі 214 замест худзенькага, змардаванага Сяргея Фаміна глядзіць усмешлівы круглатвары, жывы і здаровы Уладзімір Фамін, ён спрабуе пісаць вершы, недзе працуе на добрай пасадзе, а яго выдаўцы «пахавалі» да нараджэння.

Наогул паэтам — вязням ГУЛАГа не пашанцавала ў другім томе на біяграфічныя даведкі. Напэўна, яшчэ спрацавала інерцыя — рэпрэсіўнае знішчэнне невінаватых прыкрываць фальшывымі даведкамі і датамі смерці, а лагерныя пакуты — хлусліывымі звесткамі пра работу на будоўлях Сібіры або Поўначы, нібыта ударнікаў чатырох пяцігодак.

Так, на стар. 215 пра Сяргея **Новіка-Пеюна** сказана, што ён сядзеў у белапольскай турме і ў фашысцкіх лагерах смерці Слоніма і Калдычэва і ні слова, што вялікі пакутнік Сяргей Міхайлавіч, нарэшце поўнасцю рэабілітаваны, пятнаццаць гадоў «адмантуліў» у шахтах Калымы. Яму прыпісана кніжка «Ранняя песні» (1984), якой не існуе ў прыродзе і літаратуры. Затое кніжкі, выдадзеныя ў Заходняй Беларусі, «Цудоўная ноч», «Ёлка Дзеда Мароза», п'еса «Пакой у наймы» і кніга вершаў «Заўсёды з песняй», нават не ўспомнены, а верш «Над Шчарай» скарочаны без ведама аўтара больш як на адну трэць.

Нешта падобнае чытаем і пра Станіслава Шушкевіча: «Працаваў у прэсе. У 1937—56 у геалагічных экспедыцыях Сібіры». Няўжо паэт і журналіст рынуўся на 19 гадоў у заробкі за доўгім рублём, а можа, «паклікаў патрыятычны парыў на вялікія будоўлі камунізма»? Такі камуфляж, такая хлусня! Пасля асцярожнага аднаўлення законнасці карныя органы фальсіфікацыяй прыкрывалі свае крывавыя злачынствы, і гэта ў значнай меры трапіла ў другі том «Анталогіі» 1993 года. Гэбісты на расстраляных у 1937 годзе давалі даведкі: «Памёр ад запалення лёгкіх у 1942». Пра расстралянага ў верасні 1937 г. Юрку Лявоннага чытаю ў 2-м томе, што ён памёр 13.12.43 г. У біяграфічнай даведцы пра Сяргея Дарожнага і намёку няма, што ён загінуў у лагеры ў Камсамольску-на-Амуры. Пра Таўбіна напісана: «З 1933 года жыў у Цюмені». А тады яшчэ там і нафту не адкрылі. Не дайшоў туды «геолаг» Шушкевіч. Таўбін быў сасланы ў Цюмень, а ў 1937 расстраляны ў Мінску. Нічога не сказана, што быў расстраляны шчыры лірык Валеры Маракоў, што памёр у лагеры З. Півавараў, а выдатнейшага Хадыку з зашытымі ў каўняры бушлата вершамі ў сібірскім кар'еры завалiла глыба пароды.

Здзіўляе і падбор вершаў у другім томе. Укладальнік Алег Лойка ні з кім з жывых паэтаў не параіўся, што б яны хацелі далучыць да «букета» паэзіі. Таму і трапілі ў том пераважна выпадковыя вершы або перакачавалі з папярэдніх анталогій тае змрочнае пары безгалоснасці. Факты? Іх мноства. Такі тонкі лірык і непераўзыдзены майстра паэзіі як Аркадзь Куляшоў тры раз (анталагічны чатырохтомнік 1949 г., «Анталогія беларускай паэзіі» 1961 г. і гэтая «Анталогія») прадстаўлены ўсё тымі ж «Камуністамі», «Баладай пра чатырох заложнікаў», «Камсамольскім білетам». Броўка — усё тымі ж «Надзяй-Надзейкай» і «Кастусём Каліноўскім», што «Нядаўна ў калгасе ён быў трактарыстам», «Як ліст дубовы». Праўда, гэтыя наменклатурныя творы абрамлены некалькімі лірычнымі вершамі апошняга часу. А з вершаў гэтых паэтаў і нідзе неўспомненага Аляксея Пысіна можна было скласці самыя яскравыя і водарныя паэтычныя букеты.

Трэці том укладаў У. Гніламёдаў, рэдагаваў В. Зуёнак. Яны кожнага са сваіх аўтараў ведаюць у твар і амаль кожны твор, так што здымкі перабльтаць не маглі і дзесяцігадовых дактароў навук не выпусцілі. А вось бацьку Вольгі **Міхайлаўны** Іпатавай усё ж у **Сяргея** перахрысцілі.

Некаторыя аўтары прадстаўлены вельмі скупа і ўключаныя вершы не даюць уяўлення

Сярод кніг

# «... БЫЦЦАМ ПТУШКІ ВЯСНОЮ»

Чытач, безумоўна, памятае своеасаблівую анталогію паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме», складзеную Б. Сачанкам і выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1992 годзе. У ёй была шырока прадстаўлена творчасць нашых суайчыннікаў, якія не па сваёй волі пакінулі Бацькаўшчыну. Амаль адначасова выйшла і кніга М. Сяднёва «Ачышчэнне агнём» — выбраная лірыка і раман «І той дзень надышоў».

У той жа «Мастацкай літаратуры» сёлета мяркуецца выхад зборніка паэзіі Я. Юхнаўца «Сны на чужыне», якім распачнецца новая серыя «Галасы беларускага замежжа», а таксама кніга прозы К. Акулы.

Гэта, як кажуць, планы. А вось і яшчэ адно канкрэтнае пацвярджэнне плённасці захадаў «Мастацкай літаратуры» па знаёмстве чытачоў з літаратурай замежжа. Толькі што выйшла кніга (зноў жа, дзякуючы Б. Сачанку — ягонае ўкладанне, прадмова і звесткі пра аўтараў) «На суд гісторыі». Гэта — зборнік мемуараў. Як гаворыць у прадмове «Жывыя сведкі мінулага» Б. Сачанка, «успаміны, сабраныя ў гэтай кнізе, пісаліся на працягу многіх гадоў самымі рознымі аўтарамі і друкаваліся ў пераважнай большасці на старонках выданняў, што выходзілі за межамі Беларусі, і таму, не дзіўна, былі недаступныя шырокім чытацкім колам. Толькі сёння, быццам птушкі вясною, вяртаюцца яны з далёкага выраю ў родны край».

Вяртанне гэтае пачынаецца з успамінаў пра Цётку мужа паэтэсы С. Кайрыса і Ю. Вітан-Дубейкаўскай, пра якую, на сённяшні дзень, можна толькі сказаць, што была яна жонкай вядомага дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху Л. Вітан-Дубейкаўскага, ды тое, што друкавалася таксама пад псеўданімам Кветка Вітан. Дарэчы, пад гэтым псеўданімам пададзены ў кнізе і яе ўспаміны «Наша Ніва» і Іван Луцкевіч». Вельмі пазнавальныя такія матэрыялы, як «Сорак два гады таму. Жменька ўспамінаў аб Алесю Гаруну» Ф. Кушаля, «З жыцця Язэпа Лёсіка» А. Лёсіка і «Язэп Лёсік» А. Саковіч, «Апошнія дні Уладзіміра Жылкі», «Ларыса Геніюш» М. Сяднёва і яго ж «Юбілейныя сустрэчы. Зблізку ад Коласа і Купалы» і іншыя. Поруч — публікацыі не менш каштоўныя багаццем фактычных звестак аб людзях, пра якіх згадваюць аўтары, аб тым часе, у якім яны жылі, але апрабаваныя, так сказаць, на старонках перыёдыкі — «Мае ўспаміны аб М. Багдановічу» В. Ластоўскага, «Пяць месяцаў у Менску. З жыцця Максіма Багдановіча» Л. Войцікавай, «Завулак імя Янкі Купалы» Я. Віцьбіча...

У другім раздзеле кнігі змешчаны аўтабіяграфічныя нататкі М. Забэйды «Мастацтва за

## ЛЕЧЫМ СЯБЕ САМІ?

**Праўда, зусім не таму, што павялічваецца прыём у вышэйшыя навучальныя ўстановы медыцынскага профілю. Цяжкае матэрыяльнае становішча, адсутнасць многіх лекаў прымушаюць людзей самім клапаціцца аб уласным здароўі. Таму з такой цікавасцю і была сустрэта сямейная энцыклапедыя «Сам сабе доктар», выпушчаная выдавецтвам «Беларусь», пра якую мы не так даўно паведамлялі. Попыт на гэты даведнік прымусіў выдавецтва «Беларусь» выпусціць другое выданне яго, прытым немалым тыражом — 50 тысяч экземпляраў. Што ж, мо і на самай справе правільнае выслоўе: хваробу лепей папярэдзіць, чым лячыць? Асабліва, калі на прафесійную медыцыну часам не даводзіцца спадзявацца...**

## ВЯЛІКАЯ ПАДБОРКА

**вершаў Л. Геніюш, якія не ўвайшлі ў яе зборнікі, прапануе ў першым за сёлетні год нумары часопіс «Беларуская мінуўшчына». На адной са старонак яго вокладкі змешчаны і партрэт слыннай дачкі беларускага народа, гонару нацыі, як называе Л. Геніюш «БМ».**

**Адкрываецца ж нумар уступным словам новага галоўнага рэдактара часопіса Л. Лойкі «З павагай да мінуўшчыны». Змешчаны верш Я. Купалы «Маладая Беларусь», шэраг матэрыялаў, прысвечаных 200-годдзю паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, нарыс А. Ненадаўца «Цытадэль на Бярэзіне».**

**М. Дзелянкоўскі («Ліда — горад беларускі») знаёміць з адным з гарадоў Бацькаўшчыны. А. Харкевіч («Талент, Богам дадзены») расказвае пра пісьменніка Л. Калюгу. А. Пеліхава («Па еўрапейскіх падставах Беларусь — багатая краіна») гутарыць з галоўным навуковым супрацоўнікам Інстытута геалогіі, геахіміі і геафізікі АН Беларусі Э. Ляўковым, А. Мяснікоў («Лёс адметны і трагічны») піша пра А. Жэбрака.**

**Згадвае «БМ» і чарнобыльскую катастрофу («Дабрадзеі з канцыляры д'ябла» У. Аніскевіча, «З чарнобыльскага пекла» В. Малюшынай).**

## ХТО ТАКІ ІГНАТ АБДЗІРАЛОВІЧ?

**Гэтае пытанне задае ў артыкуле «У пошуках саміх сябе, альбо Хто такі Ігнат Абдзіраловіч?», змешчаным у чацвёртым нумары часопіса «Роднае слова», І. Чыгрын, перагортваючы старонкі аповесці М. Гарэцкага «Дзве душы». Сучасную тэматыку ў беларускай літаратуры разглядае М. Тычына («Лекі ад амнезіі»). Жыццёвымі і літаратурнымі пуцявінамі М. Хведаровіча запрашае прайсціся А. Андруковіч («Праз плынь лядовае шугі...»). Пра тое, як у беларускай паэзіі адлюстравана вясна, піша А. Бельскі («Ідзі, вясна, красуйся!..»). Творчасць А. Барскага — у полі зроку А. Бадака («Лірычны пульс паэта»). У. Конан даследуе «Міфічныя вобразы і матывы ў паэзіі Максіма Багдановіча і Якуба Коласа». Я. Шунейка знаёміць з карцінай М. Сільвановіча «Салдат з хлопчыкам» («З нядолі — да волі»).**

## ПЯЦЬ ПАЭТАЎ У ЯКАСЦІ НАТУРШЧЫКАЎ

**Афіша з назваю «Новая ініцыятыва» запрашала віцябчан на імпрэзу Таварыства вольных літаратараў. Вечарына адбылася дзякуючы руплівасці вядомага мастака і галерэйшчыка Алеся Пушкіна. Да віцебскіх аматараў паэзіі прыехалі Славамір Адамовіч, Алесь Аркуш, Сяргей Патаранскі, Сяргей Мінскевіч і Алесь Туровіч. Сустрэча праходзіла ў будынку былой гарадской гімназіі, які чакае рэстаўрацыйных работ, на фоне вытавы сучаснага беларускага жывапісу. Сябры ТВЛ расказалі пра сваю дзейнасць, эстэтычныя пошукі. І, вядома, гучалі вершы.**

**Падчас імпрэзы Алесь Пушкін рабіў замалёўкі, паабяцаўшы «тэвэлаўцам» адлюстраваць гэтую падзею ў сваёй новай карціне.**

**А. К.**

пра творчыя набыткі і іх значнасць у нашай паэзіі.

Здзіўляе, што ў «Анталогію» ўключаны вершы 1951—61—66—73 гадоў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, нібыта дзесяцігоддзі назад спынілася яго творчасць. Вершы, змешчаныя ў трэцім томе, не даюць уяўлення пра неўтаймоўную ваяўнічую лірыку бадай першага непрымірымага і бескампраміснага заступніка і абаронцы нашых векавых традыцый, роднай мовы, культуры і незалежнасці. Няўжо нельга было змясціць самыя вострыя і афарыстычныя раздзелы з рамана «Родныя дзеці», паказаць Гілевіча як дасціпнага сатырыка, які заўсёды б'е ў самае «яблычка»?

Не даюць уяўлення пра творчы ўзровень і грамадзянскі напал, пра своеасаблівае майстэрства інтанацыйных вершаў Анатоля Вярцінскага ўключаныя ў «Анталогію» некалькі твораў 60—70 гадоў.

Выпадкова падабраны даўнія вершы, якія не раскрываюць жыццёвую пазіцыю і высокае, ледзь не віртуознае майстэрства Петруся Макаля. Не было б прозвішча, не пазнаў бы аўтара па яго юнацкім почырку.

Не пазнаецца тонкі лірык, пранікнёны і назіральны, дачасна згарэлы Сцяпан Гаўрусёў.

Тры тамы «Анталогіі» — гэта 1864 старонкі. А іх магло быць куды больш. Па невядомых прычынах ці меркаваннях не ўвайшлі ў гэтае выданне Н. Вішнеўская, Н. Маркава, Р. Хацкевіч, А. Розна, Тарас Хадкевіч (зборнік вершаў «Смялей, таварыш»), Рыгор Лынькоў (Суніца), аўтар некалькіх кніг вершаў Кастусь Шавель, Паўлюк Ананнеў, Лявон Случанін (Шпакоўскі), П. Бузук (П. Росіч), Аркадзь Мардвілка. Чамусьці ўсе папярэднія анталогіі і нават даведнікі Саюза пісьменнікаў упарта абыходзяць Паўлюка Шукайлу — арганізатара «Літаратурнай камуны», які так грымеў у 20 гады. Ды хіба ўсіх успомніш? Успомніў-такі маладнякоўца з кніжкаю вершаў — Язэпа Падабеда, Міколу Дубовіка. Усё ж гэта нашы набыткі, гісторыя паэзіі.

З артыкула з гучнаю назваю «Лёс народа — лёс чалавека» я ўспамінаў імёны і сфальсіфікаваныя лёсы многіх выпадкова, а дзе і знарок забытых паэтаў. Мне хацелася ведаць, на каго мяне, чытача, зарыентуе малады літаратуразнаўца, але здзівіўся, што, апрача абкатанай абоймы і імёнаў некалькіх пачаткоўцаў, не сустрэў належных арыенціраў у гэтай шматстаронанчай публікацыі.

Думаецца, што гэты даволі хісткі артыкул маладога крытыка — першая заяўка на сур'ёзную і кваліфікаваную размову даследчыкаў і тонкіх знаўцаў паэзіі, сабранай у такой салідным «Анталогіі». Наступная невядома ў якім стагоддзі можа выйсці, а чытачу, настаўніку, выкладчыку патрэбны дакладныя лоцыі і компас у такім шырокім і глыбокім моры нашай паэзіі. Патрэбна грунтоўнае даследаванне гэтай вялікай і неабходнай працы аўтарытэтнага калектыву. А накладкі, асабліва ў наш разбэрсаны і безадказны час, скрозь бываюць, толькі ў выданні, разлічаным на дзесяцігоддзі, з такой аўтарытэтнай рэдкалегіяй, яны недапушчальныя і недаравальныя. Нават у канцы тамоў не папрасілі прабачэння і не выправілі хоць бы самыя грубыя памылкі. І ўсё ж гэтая «Анталогія», хоць і не самы яскравы букет, але надоўга патрэбны ўсім аматарам паэзіі.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

---

мір», успаміны Н. Арсенневай «З майго жыццяпісу», аўтабіяграфія А. Саковіч «Пра тое, што ў сэрцы» і жыццяпіс Л. Акіншэвіча «Балонкі ўспамінаў», інтэрв'ю карэспандэнта газеты «Беларус» з паэтам М. Кавылём «Жыве яшчэ душа ў народзе гэтым...».

Працягам згаданых публікацый успрымаюцца гутаркі Б. Сачанкі з М. Сяднёвым («Я толькі кропля ў акіяне...») і з Данчыкам і яго маці спадарыняй Юляй («Але думкай, сэрцам я вас знаю...»), паколькі ў іх субяседнікі закранаюць шмат якія моманты жыцця беларускай эміграцыі, яе стасункаў з Айчынай.

Вартасці кнігі — відавочныя, а наконт магчымай суб'ектыўнасці меркаванняў мемуарыстаў, дык, мусіць, слушна сказаў ва ўступе Б. Сачанка: «Вядома, не ўсё, што напісана ў гэтых успамінах, варта прымаць на чыстую веру. Трэба спадзявацца, вучоныя-даследчыкі з часам дадуць праўдзівыя ацэнкі кожнаму з іх, аддзеляць зерне ад плевел. Наша ж задача сціплейшая — пазнаёміць чытачоў з тым, што доўгія гады хавалася, было малавядома ці зусім невядома».

**А. М.**

---

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***

***2. Ці ўзнікала жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***

***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў /так званае хобі/.***

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# СЛУХАЮ ГАЛАСЫ ПТУШАК

1. Не. Не пішацца. Бо няма, як часта паўтарае адзін мой даўні сябра, царства нябеснага ў душы. І дзе ты яго знойдзеш сёння, гэта «царства нябеснае»?..

І тут я чую голас, які беспаваротна ставіць мяне на месца: «Пішацца або не пішацца, залежыць не ад дабрабыту пісьменніка, не ад стану эканомікі і палітычнай кан'юнктуры, а *ад грамадзянскай спеласці творцы* (курсіў мой. — **А. В.**), чысціні яго намераў і таленту».

Як тут запярэчыш?

Святыя словы — усё з таго ж незабыўнага нашага мілага...

А мне на памяць прыходзяць і — як ні дзіўна, падтрымліваюць мяне — іншыя радкі:

**Я гіну ад бяздзейнасці не месяц,**
**Не два, не тры. Як быццам хто закляў!**
**Я сам сябе гатоў хутчэй павесіць,**
**Чым існаваць для непатрэбных спраў.**

**Запал прапаў — я сэрцам разумею,**
**Яго мне не пазычаць лекары.**
**Я вар'яцею, трацячы надзею,**
**І не чакаю лепшае пары...**

Гэта Аркадзь Куляшоў.

Першую цытату я ўзяла з *адказу* на анкету «ЛіМа».

... Не пішацца. Не толькі раман ці аповесць — *перавага і павага* ў нашай літаратуры традыцыйна аддаецца гэтаму эпічнаму жанру... І ўсё ж, як і заўсёды, змарнець дашчэнту не дае, дзякуй яму, само жыццё. Нават сённяшняе... З яго нібыта дэмакратыяй (распеpазанай данельга). З яго менталітэтам (як мы задзіраем насы, што і ў нас гэтае слова з'явілася!). З яго прэзентацыямі (пустыя бочкі і лапці-лапцюжныя, і тыя без *прэзентацыі* ўжо не жадаюць *служыць народу*). А чэргі... Нашы адзіныя ў свеце чэргі! Асабліва перад кожным новым (вар'яцкім штораз!) узвышэннем цэнаў.

... Стаю на вуліцы, чакаю ў чарзе хлеба. А ўвогуле-то я жыву, як у раі: у мяне пад бокам хлебазавод і хлебная крамка пры ім — адчыні звечара акно і ўсю ноч дыхай смачнай духмянай хлебнай парай, і нашто табе тыя батоны, той беларускі, тамбоўскі, ці нейкі там дарніцкі хлеб?.. А на вуліцы перыць, як наняўся ўсё роўна, не вясновы — хоць і вясновы — дождж. Чарга гнецца. Чарга ўціскае ў каўняры галовы. Чарга маўчыць. Але і чарга — не з жалеза...

— Каб Гаспод Бог паслаў вам і вашым жонкам і вашым дзецям да смерці гэтак хадзіць з торбамі і стаяць у чэргах, як мы ўсе, людзі, ходзім і стаім дзянёчак пры дні!

Гэта старая, вымаклая на дажджы, жанчына. Яна стаіць паперадзе мяне.

— Яны не будуць хадзіць. У іх улада і грошы. Ім прывязуць, — без усякага выразу на твары адказвае старой маладая, пад парасонам.

— Мае галубкі, ад сумы і ад турмы ніхто не пэўны... І каралі хадзілі з торбамі. І цароў саджалі ў турмы... — на вашчаным твары — узрост жанчыны не вызначыць: старая ці маладая? — пакора і цярпенне.

«Народ безмолствует». Чарга маўчыць.

... «Адна баба сказала?..» Не! Аж тры бабы... Вядома ж, ніводная з іх і блізка ніколі не стаяла каля тых *Дзвярэй*, за якімі нашы самыя высокія дзяржаўныя ўрадоўцы «желали много счастья и улыбок», падносілі ружы таксама самым выдатным жанчынам Беларусі 8 Сакавіка. Гэтых, траіх, там не было. Бо яны — хто? *Проста Марыі?* Не, яны проста беларускія бабы.

Так вось часам напішуцца і твае ўласныя «Ружы ў законе»... Бо чэргі ў нашай сённяшняй, новай, вызваленай, распрыгоненай, (якія яшчэ можна знайсці эпітэты?) — дашчэнту страціўшай нацыянальную годнасць беларускай сапраўднасці, чэргі сёння — «прывілея» не адных толькі жанчын. Зірніце, колькі стаіць у чэргах мужчыні У гэтых іх нікчэмных, з замежнага нікчэмнага шырспажыву, куртках; у гэтых вынашаных, аблезлых джынсах і ў стаптаных, змардаваных красоўках... Мне шкада нашых мужчын!

Стрэла ж я, ходзячы па чэргах... Ён сам мне так прадставіўся: «А вы ведаеце — хто я? Я — злодзей». Чалавек, што адразу ж з дзіцячага дому (ад жывых бацькоў — гэта таксама наша сучасная «прывілея») трапіў у «кампанію», а затым і ў турму... На дванаццаць гадоў! («Не, у мяне былі і перапынкі... Да наступнай адсідкі...») За тое, што я слухала яго, як *чалавека* («За дванаццаць гадоў... Ніводзін начальнік... Ні разу не назваў мяне *чалавекам!* Уяўляеце?..») і звярталася да яго на «Вы», ён рваўся нават на Камароўку купіць ружы. Каб падараваць... мне. Каб толькі я сказала яму свой адрас... Адным словам — «Ружы ў законе»!

... Я кажу і пішу не пра тое? *Анкета* ж мае на ўвазе пачуць, напэўна, развагі пра сённяшні дзень беларускіх творцаў... Але мяне тут, адчуваю, зноў занясе! «Творца...» Гэта ідзе ўсё ж недзе ад Найвышэйшага — Творцы ўсяго існага... І якую адвагу і самаўпэўненасць трэба мець, каб далучаць — таму ці іншаму — і сябе да гэтай вышыні! Выйшла кніжачка анемічных вершыкаў ці натужных абразкоў — і ўжо ўвесь Дом літаратара пастаўлены на ногі! Пнуцца да знямогі сябры «творцы». Бразгаюць ансамблі. Трынькаюць і хрыпяць, пакуль не з'ехалі і не прыткнуліся дзе-небудзь да сытае місы, барды і бардэсы. Служкі высокай Мельпамены дэкламуюць «несмяротныя» радкі віноўніка ўрачыстасці. «Творцы»...

Абарані і памілуй нас, Божа! І даруй...

«Вы просите песен? Их нет у меня...»

Так, гэта расійскі паэт Някрасаў яшчэ паўтара стагоддзя назад балеў гэтакім жа, як і мы сёння, болем. І шкадаваў, спачуваў, як умелі толькі паэты, таксама і беларусу («Жалезная дарога»). І не трэба нам сёння гэтак апантана, як цiснемся «ў зону» — рублёвую, гэтак жа гвалтам вылузвацца, зняважліва адмахвацца-адмаўляцца ад высокай культуры і яе ўдзячнага святла, якое суправаджала нас і ўзвышала ў нашым свядомым жыцці (хто здольны быў яго ўспрымаць)... А тут сёння можна пачуць ужо, што і Пушкін нам не патрэбны і нецікавы. (А Купалу ён быў цікавы). Сёння «прымітыўныя» ўжо і «навошта яны нам?» — і высокае мастацтва і музыка ўсім светам прызнаных майстроў. Толькі таму, што яны не былі... беларусамі? Хутаранскі прымітывізм! А мы ж на кожным кроку пнёмся даказваць, што мы *эўрапейцы...*

Пахадзіце па нашых — не галоўных — забруджаных вуліцах, па разбітых дварах з іх адвечнымі сметнікамі. А нашы паркі і пакалечаныя скверы? Нават найпрыгажэйшыя з іх — Купалаўскі і тэатральны... Паназірайце за паводзінамі нашае вуліцы. Толькі «закрыйце свой слых» ад яе несусветнага брыдкаслоўя! Скрозь. Усюды. Са старых вуснаў. Маладых. Дзяцінах. Гэта жахліва, калі лаюцца малыя дзеці... Дзеці *дзяржавы.* Яе *будучыня* (?!).

А паслухайце мову. Нашай — беларускай — практычна няма. (І не трэба рабіць выгляду, што гэта не так. Пакуль стараемся, імкнёмся толькі, каб так было...). Але ж няма і той другой. Паслухайце, як валодаюць ёю, гэтай «другой дзяржаўнай»: «Учара састаялась атвесцвеннае засядання»... (Было ж і «Народ хатит»). Гэта дзяржаўны дзеяч высокага рангу даваў інтэрв'ю тэлежурналісту, вярнуўшыся з Масквы, дзе пішчом збывалася Беларусь на рублі...

Дык што ж рабіць пісьменніку?

Вядома ж, пісаць. Праўду. Сённяшнюю таксама.

2. «Пераглядаць набыткі»? Калі яны сапраўды набыткі, то навошта іх пераглядаць? Ды і ўвогуле, справа гэта, па-мойму, бесперспектыўная.

Мяняць арыенціры? Зноў жа: дзякуй Богу, я ніколі « не состояла»... І таму мне не давялося ганебна адхрышчвацца ад «ума, чести и совести»... Праўда, не скажаш, каб нехта і адхрысціўшыся надта многа ад таго страціў. Адхрысціўся, выйшаў з адных дзвярэй, зайшоў у другія. І зноў: «Есть мнение»...

3. Хобі? Божа!.. Не, было. Маё — толькі напалову, бадай. Збіралі мы некалі з маім сынам запісы галасоў. Апантана, да апошняга рубля аддавалі... Затое ў мяне (у нас!) ёсць голас Льва Талстога (зварот да дзяцей Яснапалянскай школы), Івана Буніна, Купрына, Аляксандра Блока, Сяргея Ясеніна, Анны Ахматавай, Вольгі Бяргольц... Мы любілі слухаць, як пранікнёна-глухавата чытае старонкі «Палескай хронікі» Іван Мележ — пра сваіх Васіля і Ганну... Як расказвае (сапраўднае акцёрскае чытанне!) пра старога цыгана («Скрыпка спявае») Янка Брыль. Як патэтычна, як толькі здольныя самі паэты, узносіўся голасам Максім Танк — «Авэ, Марыя!»

Ёсць у мяне яшчэ «Лясныя галасы птушак», запісаныя выдатным сімфаністам, гукаапэратарам-арнітолагам Барысам Вепрынцавым. Цяпер, калі часам надыдзе такі настрой... (а лесу вакол няма ані звання!), я слухаю гэтыя галасы. Птушак...

---

Яраслаў ПАРХУТА

# ХТО МЫ, АДКУЛЬ, ЯКОГА, РОДУ-ПЛЕМЕНІ

1. Ці пішацца сёння? Калі шчыра, то не вельмі. У наш вар'яцкі час лепей сядзець ля «пульта» персанальнага міні-бровара і сачыць, як цурчыць аква-віта, чым за пісьменніцкім сталом. Але я яшчэ некалі задумаў напісаць серыю краязнаўчых кніг пра зямлю бацькоў — нашу шматпакутную Беларусь, і таму траціць сябе на розную непатрэбшчыну не маю права. За гэты час пабачылі свет кнігі «Жаваранак над полем», «Зямля бацькоў нашых», «Крыніца ёсць у родным краі», «Жальба жытняга коласа». Зараз працую над чарговай кнігай з гэтай серыі — «Крывічы». Мяркую абысці ўсё вёскі нашай зямлі, якія носяць найменне КРЫВІЧЫ. Ужо цяпер уражаны магутнасцю гістарычнага пласта, які давядзецца падняць. Па сутнасці, гэта будзе адказ на пытанні — хто мы, адкуль нашы карані, што мелі, што страцілі, пра нашу духоўнасць, перспектывы выжывання нацыі. Завершаны чатыры раздзелы. Але з кожным месяцам у душу закрадваецца ўсё болей сумненняў: а ці здолею? Бо з цяперашнімі цэнамі і за тую пенсію, што мне паклалі, не вельмі ад'едзешся ад Мінска. А на камандзіровачныя і Саюз пісьменнікаў, і рэдакцыі да смешнага бедныя. Вось бы тут адшукацца якому спонсару! Ён бы не толькі дапамог добрай справе, здабыў сабе добрую рэкламу, але і зарабіў бы ўдзячнасць як сучаснікаў, так і нашчадкаў.

2. Жадання перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў, нягледзячы на ўсе выкрутасы нашага складанага часу, ніколі не ўзнікала. Хіба што ў «глухі сезон», калі дазваляеш сабе трохі адпачыць пасля нялёгкай і складанай працы, бярэшся за чыста літаратурную рэч і малога жанру. Тады з-пад пяра і з'явіцца навела-другая. Іншы раз ёй молішся, як збавенню, як Богу. Вярнуўся ж на кругі свая!.. Бо я ж пачынаў з іх.

Нядаўна сабраў навелы такога плана пад адну вокладку, і атрымалася, на мой погляд, сімпатычная кніжачка «Сустрэча з іншапланецянкай», якая ў гэтым годзе павінна выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Але... Але серыяй пра Зямлю Бацькоў, відаць, буду жыць да скону...

3. Што тычыць хобі. Іх у мяне шмат. Люблю людзей. Апантаных. Аднак яны ўсё часцей і часцей здраджваюць сабе, зачыняюцца ў сваіх асабістых «шкарлупінах», вешаюць на дзверы пудовыя замкі. Гэта засмучае. Засмучае і тое, што па-сапраўднаму апантаных застаецца ўсё меней і меней. І тады я іду ў лес. Сярод дрэў у такія хвіліны пачуваю сябе лепей!.. Люблю працу. Якой бы яна ні была. (Толькі Сізіфаву ненавіджу). Займацца кавальствам ці гарбарствам, плесці кашы ці рэзаць па дрэве, даглядаць чужыя садкі (свайго ж няма!), хадзіць за пчоламі (таксама сваіх няма!) — для мяне найвышэйшая асалода. Калі рукі занятыя, — лепей думаецца галаве... І яшчэ. Люблю нічога не рабіць! Падчас у «глухі сезон» за днёўку вунь колькі вёрстаў выстукае мая кавенька! Іншы раз усяго якую гадзіну патаўчэшся сярод люду, а дадому вернешся як на крылах. І хоць у рукзачку тваім ляжыць усяго адненькае прастамоўнае слоўца, ты адчуваеш сябе багацеем. І тады ўзнікае жаданне яшчэ пільней прыгледзецца, што робіцца вакол цябе, — каб убачыць у звычайным незвычайнае, асэнсаваць яго, а тады — напісаць. Дарэчы, гэтая формула стала нормаю майго жыцця.

Музыка

# АРТЫСТ ДВУХ ТЭАТРАЎ

У рэпертуары ДАВТа Беларусі тры оперы вялікага Чайкоўскага: «Іяланта», «Яўгеній Анегін» і «Пікавая дама». Пабываўшы на гэтых спектаклях, вы атрымаеце задавальненне ад далучэння да сапраўднага мастацтва, пачуўшы лірычны барытон Уладзіміра Пятрова, які выконвае партыі Раберта, Яўгенія Анегіна і Ялецкага.

Калі вам больш па душы іскрыстая, гарэзлівая аперэта, наведайце тэатр музычнай камедыі. Усім вядомая кальманаўская мелодыя і немудрагелісты тэкст зусім інакш гучаць, калі партыю Эдвіна ў «Сільве» выконвае Уладзімір Пятроў, робячы перажыванні героя сугучнымі нашаму часу, блізкімі і зразумелымі гледачу. Артыст выконвае таксама партыі ў спектаклях «Ноч у Венецыі», «Прынцэса цырка», «Марыца», «Лятучая мыш».

Акрамя высокай выканаўчай тэхнікі і чароўнай прыгажосці голасу, вас кранае шчырасць артыста. Не дзіўна, што ён стаў лаўрэатам 2-й прэміі і ўладальнікам прыза глядацкіх сімпатый на сёлетнім конкурсе імя М.Рымскага-Корсакава, які адбыўся ў Пецярбурзе.

«Кожная перамога вельмі прыемная, а перамога на такім сур'ёзным конкурсе прыемная ўдвая, — гаворыць У.Пятроў. — Гэта вынік велізарнай працы, зробленай разам з канцэртмайстрам Таццянай Траццяк. Гэта наша агульная перамога. Мы стараліся як мага старанней падрыхтавацца да конкурсу. Дырыжор Аляксандр Анісімаў паставіў «высокую планку», прапанаваўшы мне ўдзельнічаць у конкурсе. Менавіта ён задаў адпаведны ўзровень і карэктаваў падрыхтоўку. Я заўсёды лічыў і лічу, што поспех — гэта не выпадковасць. Гэта плён штодзённай карпатлівай працы. Нельга спыніцца на дасягнутым».

Так, і кожны, хто ведае Уладзіміра Пятрова, скажа, як шмат ён працуе. З раніцы ён на рэпетыцыі ў адным тэатры, потым — на ўроку у другім, потым зноў рэпетыцыя.

Быць артыстам аднаго тэатра досыць цяжка, а двух — проста вельмі складана. Ды так, відаць, наканавана лёсам Уладзіміра Пятрова. Калі ў 1985 годзе ён закончыў Уральскую кансерваторыю (клас Б.Вінаградава), то атрымаў прапанову працаваць у Омскім музычным тэатры. А рэпертуар музычнага тэатра ўключае і оперу, і аперэту, і вадэвіль, і музычную драму. І партыі былі ва Уладзіміра Пятрова самыя разнастайныя. Гэта Яўгеній Анегін у оперы «Яўгеній Анегін» П.Чайкоўскага, Жэрмон у оперы «Травіята» Д.Вердзі, Эдвін у аперэце «Каралева Чардаша» («Сільва») І.Кальмана, Арлоўскі ў аперэце «Лятучая мыш» І.Штрауса. Цікавая была работа над роллю Астапа Бендэра ў «Залатым цяляці» Ц.Хрэннікава, школай акцёрскага майстэрства сталася музычная драма «Я прыйшоў даць вам волю» кампазітара Я.Пцічкіна: Сцяпан Разін — адметная партыя, цікавая для сцэнічнага ўвасаблення.

Першы Усерасійскі конкурс аперэты і мюзікла ў Омску (1991 г.) прынёс У.Пятрову званне лаўрэата. Пасля гэтага ён трапіў на Міжнародны конкурс аперэты і мюзікла. Там прысутнічаў дырэктар Дзяржаўнага тэатра музычнай камеды Беларусі С.Косцін... І вось вясной 1992 г. артыста запрасіла Свярдлоўская опера, але амаль адначасова запрасіў і беларускі тэатр музычнай камедыі. Уладзімір Пятроў выбраў Мінск.

— Я ўдзячны Сяргею Рыгоравічу Косціну, — гаворыць артыст, — ён вельмі ўважлівы да артыстаў не толькі ў творчых, а і ў чалавечых стасунках.

— Вы працуеце ў двух тэатрах. З чым гэта звязана?

— Для кагосьці можа быць нечаканасцю, што я працую і ў ДАВТе Беларусі, і ў тэатры музычнай камеды. Для мяне ж гэта заканамернасць. Бо ў Омску я сумяшчаў у адным тэатры працу і над операй, і над аперэтай.

— А ці ёсць сярод вашых, такіх разнастайных, роляў асабліва любімая?

— Гэта — Яўгеній Анегін, партыя, якую я рыхтаваў яшчэ ў кансерваторыі. Яна мне вельмі дарагая. Блізкая і эмацыянальна, і духоўна. Я яе адчуваю. Роля Яўгенія Анегіна вельмі жыццёвая і сучасная. Колькі б я яе ні спяваў, з кожным разам яна робіцца мне бліжэй і больш зразумелай. Мне памаглі зрабіць гэтую партыю мае настаўнікі ў кансерваторыі. Яны былі тымі з магікаў, хто скрупулёзна, разбіраючы кожную ноту, без цярпенай сумятні, ствараючы атмасферу творчасці, у якую акунаешся, вызваляючыся ад штодзённых клопатаў і побыту. Абстаноўку яны ўмелі ствараць духоўную. Я ім вельмі ўдзячны. Цяпер, праз гады, да мяне прыйшло разуменне, здавалася б, простай рэчы: што рэжысёр і дырыжор павінны на рэпетыцыі ствараць атмасферу, пры якой можа расквітнець артыст.

У студэнцкія гады мне давялося працаваць над операй «Багема» Пучыні з рэжысёрам Федасеевым. Партыя Марселя, якую я выконваў, выклікае шмат успамінаў. Мы працавалі над спектаклем раніцай і вечарам, рэпеціруючы з вялікім задавальненнем. Шмат было натхнёных момантаў — настолькі пранікнёная музыка Пучыні і блізкі сюжэт («Багему» можна лічыць маладзёжнай операй).

— А якая музыка, акрамя опернай, вам яшчэ падабаецца?

— Мне падабаецца спяваць пад гітару, музіцыраваць. Дома ў мяне ёсць гітара, я часам спяваю ў коле блізкіх, для сваёй сям'і.

Калі вучыўся, мне падабалася аўтарская песня. Мяне крыху закранула пакаленне шасцідзесятнікаў — Візбар, Акуджава. Я неяк заўважыў, што на канцэрты аўтарскай песні прыходзіць зусім асаблівая публіка. З якой увагай яна слухае! І шырока расплюшчаныя вочы — як шырока раскрытыя душы. У аўтарскай песні прываблівае тая шчырасць, калі слова ідзе ад сэрца да сэрца. Я пачаў задумвацца: што ж асаблівага ў аўтарскай песні? У Высоцкага ёсць мелодыя? Не. Але тая шчырасць, якая зыходзіць з глыбіні душы, ні з чым не параўнаная!

— Многія знаныя спевакі спявалі ў царкоўным хоры. Ваша стаўленне да духоўнай музыкі?

— Гэта той пласт, да якога я практычна не меў дачынення. У Омску, акрамя працы ў тэатры, я рабіў праграмы з аркестрам, супрацоўнічаў з муніцыпальным хорам. Праца над праграмай духоўнай музыкі была ў мяне ў перспектыве. У сувязі з пераездам гэтыя планы пакуль не ажыццявіліся. У першы год знаходжання ў Мінску перш за ўсё трэба было ўвайсці ў рэпертуар, што я і зрабіў, увайшоўшы ў 5 спектакляў у тэатры музкамедыі і ў 3 спектаклі ў ДАВТе.

Я думаю, духоўная музыка глыбока асабістая. Да яе чалавек павінен прыйсці, усвядоміўшы яе як неабходнасць, як жыццёвую патрэбу. У кожнага павінна быць штосьці святое за душой, тады можна будаваць нейкія людскія адносіны, выхоўваць дзяцей. Бо вера — гэта прыкмета здаровага грамадства. Цяпер модным робіцца насіць крыжыкі паверху адзення. Мне ж здаецца, да веры павінна быць вельмі інтымнае стаўленне. З глыбокай пашанай ставячыся да духоўнай музыкі, я чакаю таго часу, які павярне мяне на гэты жыватворны шлях. Бо духоўная музыка — гэта тая музыка, якую трэба слухаць, якая ачышчае душу.

— Кажуць, што артыст аперэты павінен спяваць, як оперны спявак, танцаваць, як артыст балета, і іграць, як драматычны акцёр. Наколькі гэта слушна?

— Опера гэта альбо аперэта — трэба моцна верыць у тое, што ты робіш, пра што спяваеш, чаго чакае глядач ад цябе ў ствараемым вобразе, калі ён цябе слухае і чуе твае патаемныя думкі. Тады паміж сцэнай і глядзельнай залай працягваюцца нябачныя ніці зносін, узнікае энергія, якая сілкуе і артыста, і гледача. Калі я гляджу спектакль па тэлевізары, такога пачуцця не ўзнікае. Чым і розніцца тэатр ад іншых мастацтваў — «сиюминутностью». У артыста няма, як у паэта альбо жывапісца, друкарні ці палатна, каб зафіксаваць свае думкі, свае вобразы. Кожны спектакль памірае ў момант свайго заканчэння. Толькі хвіліны натхнёнай творчасці ашчадна захоўваюцца ў памяці гледача.



— А што для вас шчасце?

— Я лічу, што для мужчыны галоўнае ў жыцці — справа, якой служыш, праца ў першую чаргу. У гэтым сэнсе я шчаслівы. Я займаюся сваёй справай, у мяне ёсць што сказаць гледачу. Я не хаваю, што люблю выходзіць на сцэну, на публіку. Нясці свае перажыванні, свае эмоцыі. Але бясспрэчна, без чаго не магло адбыцца маё першае шчасце, — без маёй жонкі, без маёй сям'і. Мудра заўважана: мой дом — мая крэпасць. Пасля рэпетыцый я імкнуся дадому. Таму што, вяртаючыся дадому, я ведаю, што мяне з нецярпеннем чакаюць блізкія людзі, здольныя зразумець мяне: мая жонка, дачка і сын.

*Шчаслівы лёс? Магчыма. Уся справа ў тым, якія мэты ставіць перад сабой чалавек. А на сённяшні дзень самае лепшае ў гэтым лёсе, на мой погляд, тое, што ён далёка не завершаны. На сцэне тэатра музычнай камедыі адбылася прэм'ера аперэты М.Стрэльнікава «Халопка»: Уладзімір Пятроў выконвае ў ёй партыю Андрэя Туманскага. Тэатр оперы і балета распачаў гастролі ў Іспаніі «Севільскім цырульнікам» Д.Расіні: у ролі Фігара — Уладзімір Пятроў.*

**Ларыса ВІШНЕЎСКАЯ**

*Фота С.ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# МАСТАЧКА З ПАЛЕССЯ

11 ліпеня 1852 года ў маёнтку Баландзічы Кобрынскага павета Гродзенскай губерні (*цяпер вёсачка на поўдні Іванаўскага раёна* — амаль на мяжы з Украінай) у шляхетнай сям'і Яраслава і Алены Бутаўт-Андрайковіч нарадзілася дачка Марыя-Магдаліна-Эліза, якая напрыканцы XIX стагоддзя папоўніла лік выдатнейшых еўрапейскіх жывапісцаў.

Хрышчэнне дзяўчынкі адбылося ў Янаўскай рымска-каталіцкай прыходскай царкве 21 *ліпеня. Дзяцінства яна правяла ўсё ў тых жа* Баландзічах. А ў дванаццацігадовым узросце ёй давялося змяніць месца жыхарства. У 1864 годзе бацьку Магдаліны царская ўлады выслалі ў Пензенскую губерню за ўдзел у паўстанні 1863 года. Яшчэ праз тры гады, у 1867-м, сям'я пераехала ў Рыгу. У дваццацігадовым узросце захапілася жывапісам. У 1872—1874 і 1876—1878 *гадах* вывучала яго ў манахаў Аляксандра Лізен-Маўэра, а таксама Макса Адама. У 1875 і 76 гадах ездзіла ў Італію. У 1873—80 — знаходзілася ў манастыры, дзе экспанавала свае карціны.

З 1881 года жыве ў Варшаве і ў сваім маёнтку Гарнастаевічы пад Ваўкавыскам. У *1876 годзе ў Кракаве выставіла карціну «Ян* Каханоўскі над астанкамі Уршулкі». З 1878 па 1888 год яе работы нязменна экспанаваліся ў Варшаве, дзе яна, пачынаючы з 1881 года, вяла мастацкія курсы для жанчын. Баючыся страціць зрок, недзе напрыканцы 80-х гадоў кінула маляваць, а з 1888-га не выстаўляла сваіх карцін. У 1907-ым стала членам *Літоўскага таварыства мастакоў* у Вільні.

Малявала пераважна гістарычныя і рэлігійныя палотны вялікіх памераў. Радзей — партрэты. Да найбольш вядомых, апроч згаданай кампазіцыі, адносяцца такія карціны, як «Кардынал Джавані Медзічы і Пампоніус Лает ус на рымскіх раскопках» (1878), «Уладзіслаў Лакіток у Айцове» (1881), «Хрыстос вяртае сляпому зрок» (1882), «Міласэрнасць св. Ядвігі» (Святая Ядвіга ратуе работніка, параненага ў час узвядзення касцёла ў Кракаве) (1884), «Пакліканы на гады» (1885). Месцазнаходжанне некаторых з гэтых карцін сёння невядомае.

З моманту экспанавання «Яна Каханоўскага...» (мастачка мела тады крыху болей чым дваццаць год) гэтая і наступныя яе карціны выклікалі вялікую зацікаўленасць з боку крытыкаў і прэсы. «Я быў здзіўлены, калі ўбачыў, — пісаў у 1878 годзе рэцэнзент «Тыгодніка ілюстраванага», — жаночае прозвішча пад адной з выбітных карцін апошняй выставы «Кардынал Джавані Медзічы і Пампоніус Лаетус на рымскіх раскопках». Падобныя кампазіцыі выключна рэдка выходзяць з-пад далікатнай жаночай рукі. Гэтая карціна сведчыць аб трываласці школы і яе правільным практычным прымяненні». Падобныя водгукі мелі і многія іншыя яе карціны. У прыватнасці, падкрэслівалася, што яна *«безумоўны аўтарытэт», што малюе «з нязвыклаю сілай і валодае тэхнікай»*, што «сярод кабет польскіх, якія прысвячаюць сябе жывапісу, займае неаспрэчнае першае месца». Генрых Струвэ змясціў рэпрадукцыю «Міласэрнасці св. Ядвігі» ў альбоме, прысвечаным найвыдатнейшым польскім жывапісцам. Аўтарам біяграфічных звестак пра Бутаўт-Андрайковіч быў Войцэх Герсан, які ўхваляў «выбар мастачкай тэмы і вялікае майстэрства выканання», а таксама «жывасць фарбаў і эфект святачення».

Майстэрства яе ўсталёўвалася пад уплывам нямецкіх настаўнікаў. У выпісаных пастацях, у іх жэстах і позах адчуваецца ўплыў завуаляванага сентыменталізмам акадэмічнага мастацтва.

Пасля развітання з жывапісам Магдаліна прысвяціла сябе асветніцкай дзейнасці і філантропіі. Была таксама першай збіральніцай аб'ектаў народнага мастацтва.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**





*На здымках: фотарэпрадукцыі з карцін «Кардынал Джавані Медзічы і Пампоніус Лаетус на рымскіх раскопках» і «Уладзіслаў Лакіток у Айцове».*

# ЖЫВАПІС, ШТО КРАНАЕ...

І Валерыю Жолтак, і Алену Лось даўно ўжо не трэба прадстаўляць. Іх работы сталі хрэстаматыйнымі. Згадайце карціну В. Жолтак, дзе дзяўчына ў бэзавай хустачцы з бэзавымі веснавымі кветкамі сярод бяроз, — яна амаль у кожным падручніку. А А. Лось, якая так удала і прыгожа распрацоўвае ў сваіх графічных лістах народна-этнаграфічныя матывы! Выставы гэтых мастачак, аб'яднаныя на адным паверсе, працуюць у Рэспубліканскай мастацкай галерэі.

Тут, у асноўным, прадстаўлены іх апошнія работы. Цікава, што Алена Лось паказала на выставе свой дасюль амаль невядомы жывапіс, які гарманічна існуе побач з нацюрмортамі Валерыі Жолтак.

Ідзеш па выставе: такая колеравая паліфанія, такая разнастайнасць кветак, дрэў, такія прыгожыя людзі! І душа спявае...

**Н. Ш.**

# З КОНКУРСУ ДУЭТАЎ

Другая прэмія на Міжнародным конкурсе фартэпіянных дуэтаў — гэта проста здорава! А лаўрэатамі музычнага спаборніцтва, якое праходзіла ў Чэхіі, сталі выхаванкі Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Аня Гетманава і Настасся Пазнякова. Абедзве вучацца ў класе вядомага педагога Наталлі Ташчылінай, якая славіца падрыхтоўкай маладых міжнародных лаўрэатаў. Праграма гэтага конкурсу была складаная, дзяўчатам даводзілася і граць у чатыры рукі, і выступаць дуэтам за двума раялямі. І канкурэнты былі сур'ёзныя: музыканты з Японіі, ЗША, Расіі, еўрапейскіх краін.

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ГАСЦЁЎНЯ НАРОДНЫХ ТАЛЕНТАЎ



**Ужо ўвайшло ў традыцыю штогод у гарадской бібліятэцы Скідзеля праводзіць літаратурна-мастацкую гасцёўню. І так пяты год. Яе арганізатары — супрацоўнікі гарадской бібліятэкі Надзея Габаян і Ніна Гамулецкая.**

**Раней на гасцёўні дэманстраваліся толькі таленты мясцовых спевакоў, музыкаў, паэтаў. Сёлета ж сюды дадаліся мастацкі жывапіс, ткацтва, разьба па дрэве, малюнкі, вышыўка, гліняная скульптура. Сюды прыходзяць людзі розных узростаў, з рознай адукацыяй і прафесіямі.**

**Так, у апошняй гасцёўні ўдзельнічалі самадзейныя мастакі — Кацярына Міціна (у мінулым настаўніца матэматыкі і малявання ў сярэдняй школе) і яе дочкі, а таксама Уладзімір Бондараў. Зацікавілі вышыванкі і вязанне пенсіянеркі Ніны Чаравач і тканыя на матчыных кроснах пакрывалы Веранікі Галубок. А Віктар Урбаш працуе слесарам на цукровым камбінаце, у свабодны час малюе, займаецца разьбой. Экспанатамі на гасцёўні сталі яго кухонны набор кубкаў і сподачак, галава аленя з дрэва. Навучыўся Віктар мастацтву ў Бабруйскім мастацкім вучылішчы. Цяпер ён дапамагае ствараць інтэр'еры ў цэрквах. Пасля прагучалі беларускія народныя песні ў выкананні выхавацелек дзіцячага сада калгаса «Скідзельскі» Тамары Малевіч і Людмілы Мацкевіч, вершы самадзейных паэтаў.**

**І. БАРЫСАЎ**
*г. Скідзель*



*На здымках: разьбяр па дрэве Віктар Урбаш і ягоная работы галава аленя.*

# ШТО Ў ВОБЛІКУ ТВАІМ, ЦАРКВА?

**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі раз-пораз практыкуе выстаўкі. Праўда, найчасцей чарговая экспазіцыя прысвячаецца расказу пра якую-небудзь краіну ці ўспрымаецца як справаздача творцы пасля паездкі за мяжу. Гэтым жа разам традыцыя парушана. Аматары даўніны атрымалі магчымасць пазнаёміцца з работамі мастака С. Андрэйчыка з Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей, што сталі вынікам яго падарожжа па роднай Беларусі. Яшчэ падчас ранейшай працы ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі ён меў магчымасць зрабіць замалёўкі цэркваў, касцёлаў (як тых, што захаваліся, так і разбураных) на тэрыторыі Брэстчыны. 32 з гэтых работ і былі вынесены на суд гледачоў.**

Віншуем!

# Марыі ШАЎЧОНАК — 50

Паэтэсе Марыі Шаўчонак споўнілася 50 гадоў. Нарадзілася яна 11 мая 1944 года ў вёсцы Новы Востраў Клічаўскага раёна ў сялянскай сям'і. З першымі вершамі выступіла яшчэ зусім у юным узросце — у 1954 годзе. Школьніцай-старшакласніцай шырока — на цэлую паласу — была прадстаўлена ў часопісе «Бярозка».

Пасля заканчэння ў 1965 годзе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта настаўнічала ў Ракавіцкай сярэдняй школе Шчучынскага раёна, працавала ў рэдакцыі шчучынскай раённай газеты. У 1978 годзе была запрошана на Гродзенскую студыю тэлебачання старшым рэдактарам.

Першая кніжка М. Шаўчонак «Белая ластаўка» выйшла ў 1971 годзе. У ёй, як і ў наступных, — «Свята зямлі», «Бацькоўскае імя», «Раса-расінка», лірычная гераіня не хавае повязі з бацькоўскай зямлёй, замілавана піша аб прыродзе, каханні, сяброўстве.

Віншуем Марыю Сільвестраўну з поўднем веку, зычым ёй здароўя, новых паэтычных поспехаў!



# ДУША «ВЯСЕЛЛЯ»

Новы ансамбль — «Вяселле»... Тут сабраліся людзі асаблівыя, самаадданыя, а то і фанатычныя руплiўцы роднай культуры і яе самабытнасці. Святлана і Уладзімір Салодкія — душа «Вяселля». Прозвішча гэтых спевакоў, лаўрэатаў многіх конкурсаў і фестываляў, не сыходзіць з канцэртных афіш як у рэспубліцы, так і за яе межамі. Салісты ансамбля народнай музыкі, песні і танца «Вяселле», заслужаныя артысты Беларусі, яны заўсёды маюць поспех у публікі.

Жыццё Святланы было нялёгкім. Бацька — інвалід Вялікай Айчыннай вайны — памёр, калі дзяўчынцы было толькі два гады. Засталася з маці, сястрой і трыма братамі. Але ішоў час. Вучылася ў школе ў Баранавічах, актыўна ўдзельнічала ў мастацкай самадзейнасці. Тут Святлана спазнала многа народных песень, асабліва палюбіла роднае слова, не ўяўляе свайго жыцця без яго, без народнай беларускай песні. А спяваць пачала з маленства. Гэтаму яе навучыла маці Тамара Іванаўна, якая сама была ўдзельніцай свят, абрадаў, вячорак у вёсцы Дудзічы, што на Дзятлаўшчыне. Вялікая фальклорная спадчына дасталася Святлане ад маці. Неўзабаве паступіла на харавое аддзяленне Баранавіцкага музычнага вучылішча, пасля заканчэння была накіравана ў Дзяржаўны народны хор.

У 1984 г. пры Белдзяржфілармоніі быў створаны ансамбль народнай музыкі «Свята». Сюды запрасілі працаваць і Святлану.

Уладзімір Салодкі гадаваўся ў Краснаполлі, дзе ў школьным хоры ўпершыню сустрэўся з мастацтвам, адчуў асалоду творчасці. Затым — Магілёўскае культасветвучылішча, Мінскі інстытут культуры. Працаваў у Дзяржаўным народным хоры, дзе і пазнаёміўся са Святланай. Пасябравалі, пакахаліся, стварылі сям'ю. У час паездак па роднай Беларусі ўважліва слухалі старэнькіх бабуль і дзядуляў, старанна запаўнялі магнітафонныя касеты фальклорнымі скарбамі.

Сёлета ў студзені пад кіраўніцтвам лаўрэата міжнародных конкурсаў Віктара Людчыка ўтварыўся ансамбль народнай музыкі, песні і танца «Вяселле». Салістамі сталі Святлана і Уладзімір Салодкія. Добра ведаючы каляндарна-абрадавую, сямейна-абрадавую паэзію, яны далі багаты матэрыял для выканання.

Новы ансамбль радуе слухачоў багаццем, віртуознасцю і моцным эмацыянальным зарадам, высокай музычнай культурай: аркестр вельмі зладжаны, гучыць лёгка, каларытна, у яго чысты строй. Па сваёй прыродзе і складу інструментаў — народны. А калі ўлічыць нашу цяперашнюю цікавасць да фальклору, дык з'яўленне ансамбля «Вяселле» можна назваць сапраўдным святам.

— Збор і апрацоўка мясцовых узораў песеннага ды інструментальнага фальклору дае аснову рэпертуару нашага ансамбля, — кажа музычны кіраўнік Віктар Людчык. — Народнай музыцы мы ўдзяляем асаблівую ўвагу. Гэта звязана з інструментальнай традыцыяй: у аснове нашага ансамбля — народныя інструменты.

Апошнім часам, бадай, ніводнае свята ў рэспубліцы не абыходзіцца без гэтага іскрыстага, таленавітага народнага ансамбля. Народнага — таму, што ягоныя песні, музыка і танцы нарадзіліся некалі ў глыбіні жыцця і цяпер як бясцэнныя творы зіхацяць маладой неўтаймаванасцю і таямнічай дасканаласцю, таму што адшліфаваліся ў лепшай у свеце майстэрні — народным побыце.

**Пётра БАРАНОЎСКІ**



*На здымку: заслужаныя артысты Святлана і Уладзімір САЛОДКІЯ.*

Вечарыны

# ПРА ШКОДУ ТЫТУНЮ

***Вечарыне Луіджы Пірандэла, што 25 красавіка апанавала сцэну Рускага тэатра Беларусі, папярэднічала сапраўдная канферэнцыя, прысвечаная спадчыне драматурга.***

Навукоўцы і творцы тэатра, сярод якіх былі А. Дудараў і Б. Луцэнка, зразумелі і падтрымалі радцу па пытаннях культуры італьянскага пасольства ў Беларусі сп. Асвальда Ляуцы: каля дваццаці спектакляў паводле твораў знанага драматурга... «упрыгожылі рэпертуары прафесійных тэатраў Італіі, не кажучы ўжо пра драбнейшыя ды аматарскія студыі» самым апошнім часам, — так, прынамсі, падае часопіс «Иностранная литература». Са спасылкаю на яго ж паведамлю, што такую вялікую зацікаўленасць творчасцю Нобелеўскага лаўрэата (выданне, перавыданне, пастаноўкі і да т. п.) абумовіла найшараговая прычына: тэрмін дзеяння аўтарскіх правоў, а імі валодалі нашчадкі-спадкаемцы драматурга, скончыўся. Ставіць ці выдаваць Пірандэла цяпер можна без іхняга пільнага вока. Гэта, аднак, паміж іншым ды ў Італіі, бо ў нас замежныя аўтарскія правы не карысталіся да апошняга часу вялікай павагай... Што да вечарыны, дзе ў вартасці драматургічнай спадчыны Пірандэла, як той казаў, можна было пераканацца ўвачавідкі, дык перадусім публіцы прадставіўся акцёр рымскага тэатра «Амфітрыён» Марчэла Баніні Олас у драматызаваным дыялогу «Мужчына з кветкаю ў роце», — ягоным партнёрам па размове выступіў ніхто іншы, як ... радца па пытаннях культуры італьянскага пасольства. Так-так, Асвальда Ляуцы. Згадаў, відавочна, і з асалодаю, сваё рэжысёрскае мінулае?.. Барыс Луцэнка прапанаваў увазе гледачоў своеасаблівую аднаактовую версію «Шасці персанажаў у пошуках аўтара»; аўтара шукалі, адпаведна, акцёры Святлана Кузьміна, Аксана Перавожкіна, Аляксандр Брухацкі, Аляксандр Ждановіч, Вячаслаў Саладзілаў і Ягор Фядотаў, — гэта, заўважце, трэцяя важкая роля школьніка Ягора на рускай сцэне Беларусі (назіраючы за Ягоравымі мамай і татам, я вырашыла, што яны, прадстаўнікі вядомай акцёрскай дынастыі, сынам задаволены). Адну з роляў выканаў і мастацкі кіраўнік тэатра Барыс Луцэнка, чым, натуральна, спарадзіў процьму пытанняў зацікаўленай публікі пра паўтор, працяг ды перыядычнасць гэтых выступленняў; на мае аналагічныя пытанні Барыс Луцэнка адказаў, што ў Рускім тэатры Беларусі мяркуецца рэпертуарны спектакль-вечарына італьянскай драматургіі. Твору Пірандэла наканавана стацца першым актам; другі акт спектакля складзе драматургія іншага, не менш знанага сучаснага аўтара. Не будзем, аднак, запабягаць, — тым больш і рымскі спадар Марчэла Баніні Олас другім актам свайго выступлення зрабіў... Чэхава Антона Паўлавіча, распавёўшы зале «Пра шкоду тытуню».

**Ж. Л.**



*На здымку: Марчэла Баніні Олас распавядае «Пра шкоду тытуню».*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

# ПРОСТА МАРЫЯ

Як скончыўся новы тэлеспектакль БТ «Марыя па Хрысце», або Адплата за здраду», дык дыктар адразу ж прапанаваў гледачам падзяліцца сваімі ўражаннямі. Просьбу такую цяжка пакінуць без адказу.

«Вас здзіўляе, чаму — Марыя па Хрысце? Тлумачэнне простае. Спрадвеку, колькі свет стаіць, жанчына калі не раба, то ахвяра. Ахвяра абставін, часу, самой прыроды...» Праўда, і цытата з аповесці Т. Бондар «Марыя» наўрад ці дапаможа ўдакладніць сэнс найноўшага «экраннага здарэння». Як, зрэшты, і іншыя дарэмныя супастаўленні літаратурнага твора і яго тэлевізійнай інтэрпрэтацыі...

У аповесці Т. Бондар ёсць тры паралельныя тэмы: маці, яе дачкі Марыі і ... музыкі. Ніводная з іх не набыла мастацкай распрацоўкі ў тэлеспектаклі. Яго аўтар С. Гавенка паведаміў трывіяльную гісторыю пра юную Машу, якая, спатыкнуўшыся на першых прыступках дарослага жыцця, зрабілася ахвярай у змаганні за чысціню ўласнай душы.

Кампазіцыя пастаноўкі — своеасаблівы «мантаж навыварат», гэта значыць — збор эпізодаў-»нумароў» з рэальнага ці мінулага жыцця персанажаў. Прычым мноства фрагментаў тэлеспектакля засталіся непераадоленымі перашкодамі не толькі для гледачоў, але і для самой творчай групы. Увогуле, пастаноўка — дзіўны ўзор актыўнага супраціўлення «мастацкіх матэрыялаў». На драматургічным узроўні — фабула, наладаваная паводле прынцыпу «да кучы» падзеямі і да т. п. ды прэсныя дыялогі персанажаў. На выканаўчым узроўні — менш як трошкі прафесійных намаганняў з боку акцёраў (так, прынамсі, выглядала). Мастака... нават і не запрасілі. Навошта афарміцель, калі здымкі ўсе на натуры? І, нарэшце, аб аператарскім майстэрстве. Відэакамера У. Таланава і А. Сакалова большасцю паводзіць сябе... агрэсіўна, парушаючы элементарныя законы экраннай мовы. Кадры падобныя да аматарскіх практыкаванняў: ракурсы і планы непрадуманыя, часам проста недарэчныя. Дастаткова нагадаць «кухонную» сцэну. Гераіня Л. Давідовіч (маці) пачуваецца няўтульна не ад порсткіх пытанняў дачкі (А. Токарава), а зусім з другой нагоды, бо міжволі ўцягнута ў пластычны канфлікт... з камерай: актрыса вымушана ўхіляцца ад назойлівага аб'ектыва, які так і стараецца ўслед за бутэрбродам «нырнуць» ёй у рот. Маладыя ж выканаўцы нават і не падазраюць аб такой жорсткай аператарскай манеры — нетэлегенічнасці адлюстравання.

Яшчэ больш сумна ад таго, што тэлеспектакль пакінула Музыка. Яна магла адухатварыць пастаноўку, стаўшы яе вобразным люстрам, а таксама — унутраным голасам Марыі. У выніку рэжысёрскага адбору ад Музыкі засталіся толькі вонкавыя абазначэнні.

С. Гавенка знайшоў іншы эквівалент духоўнасці і прывёў Марыю (за ёй — гледача) у царкву. Гэты ход таксама аказаўся небяспечным, бо хрысціянскія сімвалы і таемствы выглядаюць на тэлеэкране чужароднымі «цацкамі». А ўвесь пафас аўтарскай заяўкі знікае пад цяжарам цынічнай метамарфозы: «Марыя па Хрысце, або ... Мышаня на Галгофе».

Не варта было пастаноўшчыкам узвальваць непасільны крыж на плечы тутэйшай Марыі. Лепш было правесці яе па ўтрамбаванай мексіканцамі сцежцы. Сама банальная аналогія забяспечыла б палову поспеху. А галоўнае — ніякай прэтэнцыёзнасці і, у адпаведнасці з жанрам, ніякай крытыкі.

**Наталля АГАФОНАВА**

## НАШ КАЛЯНДАР

**1 мая споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння казахскага паэта ІЛЬЯСА ДЖАНСУГАРАВА (1894—1937), які займаўся перакладамі беларускай літаратуры.**

**1 мая — 100 гадоў з дня нараджэння чувашскага пісьменніка СЯМЁНА ЭЛЬГЕРА (1894—1966). Перакладаў беларускую паэзію, напісаў успаміны пра Янку Купалу.**

**6 мая — 90 гадоў з дня нараджэння ПАЎЛЮКА ТРУСА (1904—1929). Выйшлі зборнікі «Вершы» (1925), «Ветры буйныя» (1927). Выбраныя творы П. Труса пасля яго смерці перавыдаваліся больш за дзесяць гадоў.**

**6 мая — 75 гадоў з дня нараджэння ГЕОРГІЯ ШЧАРБАТАВА (1919—1957). З нарысамі і рэцэнзіямі пачаў выступаць у 1939 годзе. Аўтар запісак «Партызанскія агні» (1950), нарысаў «Камсамол Беларусі ў баях за Радзіму» (1950, 1957), «Неспакойныя сэрцы» (1951), шэрагу кніг прозы.**

**8 мая — 60 гадоў з дня нараджэння графіка, мастацтвазнаўцы, пісьменніка МІКАЛАЯ ГАНЧАРОВА (1934—1991). Выдаў кнігі «Веснавая завязь» (1962), «Карусель» (1971), «Зямля ў квецені» (1983) і іншыя.**

**16 мая — 105 гадоў з дня першай публікацыі ў газеце «Минский листок» ананімнай паэмы «Тарас на Парнасе» (пад назвай «Тарас».**

**16 мая — 90 гадоў з дня нараджэння рускага паэта ВОСІПА КОЛЫЧАВА (1904—1973). Удзельнік вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аўтар успамінаў пра Я. Купалу і паэмы, прысвечанай яму. Пераклаў асобныя творы Я. Купалы, П. Броўкі, М. Танка, М. Чарота і іншых беларускіх паэтаў.**

**17 мая — 100 гадоў з дня нараджэння ЯНА СУДРАБКАЛНА (1894—1975), народнага паэта Латвіі. Аўтар артыкулаў, успамінаў пра Я. Купалу «Беларускі народны паэт», «Паэт дружбы народаў», «Янка Купала блізкі латышскаму народу». Напісаў верш «Памяці Купалы» (пераклад на беларускую мову П. Броўкі). Творы Я. Судрабкална перакладалі У. Караткевіч, Е. Лось, Э. Агняцвет, С. Грахоўскі, Р. Барадулін, В. Зуёнак, Х. Жычка і іншыя.**

**18 мая — 70 гадоў назад у Вільні пачала выходзіць газета «Сын Беларусі» (апошні нумар датаваны 19 верасня 1924 года).**

**18 мая — 50 гадоў з дня заснавання Літаратурнага музея імя Янкі Купалы.**

**24 мая — 90 гадоў з дня нараджэння паэта-песенніка АДАМА РУСАКА (1904—1987).**

**27 мая — 80 гадоў з дня нараджэння АНТОНА БЯЛЕВІЧА (1914—1978). Аўтар дзесяткаў кніг паэзіі, прозы, твораў для дзяцей. Плённа выступаў у галіне перакладу.**

**4 мая — 75 гадоў з дня нараджэння ПЯТРА ШАСЦЕРЫКОВА (1919—1994). Пісаў па-руску. Аўтар некалькіх кніг прозы, у тым ліку і для дзяцей. Рабіў літаратурную апрацоўку ўспамінаў удзельнікаў вайны. Напісаў тэксты да фотаальбомаў «Магілёў» (1968, 1971, 1977).**

## ГОРКАЯ, АЛЕ ПАТРЭБНАЯ ПРАЎДА

**Такога яшчэ ў Доме літаратара не было! Адбылася прэзентацыя адразу чатырох кніг. Прытым усе напісаны адным аўтарам — Валерыем Сарокам. Магчыма, ён і не стаў бы пісьменнікам, ды абставіны склаліся так, што за пяро проста не мог не ўзяцца.**

**В. Сарока быў беспадстаўна абвінавачаны па так званай «віцебскай справе», учарашні следчы стаў вязнем... Тады і ўзнікла жаданне ўзнавіць горкую, але, як на яго думку, такую патрэбную праўду.**

**На вечары выступілі А. Жук (вядучы), А. Лойка, А. Жалязоўскі, рэдактар кніг С. Аладзьеў.**

**Дыктар тэлебачання В. Аксянцюк прачытаў урыўкі з твораў. У вечары прынялі ўдзел фальклорныя гурты «Гармонія», «Квецень», джаз-квартэт, бард А. Атаманаў, спявачка В. Крываносава, піяністка І. Шуміліна.**

**В. Сарока адказаў на пытанні прысутных.**

П. ПЕТРУСЁЎ

## УЗВОДЗІЦЦА ПОМНІК

**У Маладзечанскім гарвыканкаме адбылася рабочая нарада, на якой абмяркоўваўся ход узвядзення помніка-ансамбля былым вязням фашысцкага канцлагера «Шталаг-342», што ў гады мінулай вайны знаходзіўся ў горадзе.**

**Помнік мяркуецца адкрыць да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

М. КАПЫЛОВІЧ

# АДВЕЧНЫ КЛІЧ

*(Пачатак на стар. 13)*

нагамі. Мне стала сцішна, кінуўся бегчы да яго, убачыў, як ён ляжыць на жываце і перабірае нагамі. Падумалася: агонія. Але не, ён адстральнуўся са свайго карабіна.

— Міша, — крыкнуў я як мог голасна, — уставай, айда за Новае Сяло. Мігам!

Той паспрабаваў упінацца, тады я загадаў хлопцу, якому снайпер клюнуў у руку, адвесці Мішку акружною дарогай у лагер.

Міцькаўцы спешаным строем высыпалі з Браносава і пасунуліся ў кірунку Лядак, але, зарыентаваўшыся ў сітуацыі, камандзір вярнуў байцоў назад у вёску. Наш левы фланг адступіў. Мы засталіся на подступах да Лядак адны. Логіка падказвала адыходзіць на Новае Сяло, узяць у лагеры патрэбны падмацунак, ды ўдарыць па Лядках з Буковічаў, загнаць карнікаў у гарнізон і пагнаць на засаду ў Кашчыцавым двары. Але гонар і доўг не дазвалялі пакінуць поле бою. І я запрапанаваў Косцю далучыцца да Міцькі. Гэта было для нас нешта накшталт смяротнага выбару, таму я прапанаваў ісці з намі толькі добраахвотнікам, а астатнім арганізавана адыходзіць пад Пратаса на Новае Сяло за камандзірам. Косця падтрымаў прапанову, да нас далучылася чалавек восем смельчакоў, пераважна ляднян: Міша Мажэйка, Шура Бянецкі, Міша Грамыка, з Сіняўскай Слабады Коля Парэцкі і Пейка Навумчык.

Браносава стаяла за бугром, на іншым пагорку, і карнікі, мабыць, не ўбачылі спробы міцькаўцаў атакаваць іх з Браносава. Яны не ведалі, што туды, пад самы гарнізон пасунуўся ноччу цэлы конны атрад. Лічылі, відаць, што там заблыталася пару коннікаў ды ідзе да іх група нахабных пешкуроў, якія замест таго, каб уцякаць у лес, наважыліся перасекчы ім шлях вяртання ў гарнізон. А мы трухалі да Браносава не з лёгкаю душою. Крыўдна было, што ў нас аказалася так мала сілы і трапілі ў такую безнадзейную сітуацыю. Уяўленне, як магніт, цягнула туды, у Лядкі. Што там? Як там?

А там усё было скончана яшчэ да світання. Акрамя таго хлопчыка, вырваўся і ўцёк у адной бялізне, у выступах на босую нагу яшчэ адзін чалавек, дарослы дзяцюк, старэйшы брат нашага партызана Фаніка Станкевіча, Косця. Нас ён не сустрэў, прамчаўся міма занятых намі хутароў, на Новае Сяло. Гэтыя ўцёкі застаюцца да сённяшняга дня пацвярджэннем невераго́днай вынослівасці чалавека, які трапляе ў экстрэмальную сітуацыю. Я чуў ад яго расказ, а ўрэшце і запісаў на магнітафонную стужку. Косця расказваў, відаць, пра тое здарэнне многа разоў і расказ у яго рабіўся складным, стаў ледзь не былінай жаху. Вось ён:

«Паліцыя награнула на наша сяло, ачапіла... Яны не паказвалі віду, што яны нямецкая паліцыя, былі паадзяваты, як парцізаны, у паўшубках. І вот яны к нам заходзяць, удваіх спярша. Дваіх заходзяць, а я, значыць, у пярэгарадцы сплю.

Вось яны ў бацькі пытаюцца: «Ці бывае ў вас паліцыя?» А яны самі — гэта паліцыя. Бацька кажа: «Не было даўно ўжо, гэта як пабіліся яны ля Даўгінава, ад таго, кажа, часу не відно гэтае паліцыі...» Ну, а я ў душы пачуў, што гэта, значыць, не наш воздух. Гэта, значыць, нямецкія! Я, панімаеш, шамоль-шамоль... Адзецца мне, усё поўнасцю, скажуць: «Ты ўцякаеш?» Я ўступіўся без парцянак, толькі порткі адзеў, і так на мне сарочка, так як выйсці, як быццам на двор па патрэбе. Ну і паўшубак узяў новы (быў пашыты аўчынавы, свай работы), узяў на плечы, як на мароз, гэта як усё роўна выйсці на двор. А паліцаі гавораць: «Стоп! Нельзя!» Я кажу: «Як жа, мне то можна, я за сваёй патрэбай...» А ён: «Нет, нельзя!»

Потым убягаюць так два яшчэ. Гэта былі ярэміцкія: Чыжэўскі, як я знаю, той, што выраблаў шкуры пры Польшчы, і быў Вінцік, як гэта гавораць, Клаўсуць, той са мною разам у школу хадзіў — паліцэйскія адразу гавораць: «Садзісь, а то прыстрэлім!» На мяне. Тут мяне ўсяго завалнавала і волас падняўся на галаве, як палкі. Я ўжо ўсей адрантвянеў, акамянеў. І знайшлася ўжо ва мне сіла непрытомная.

Вот яны гавораць мне: «Садзісь і гатоўся к расстрэлу!» А куды я буду садзіцца? Значыць, у мяне рысуецца план: бацька, маці, я... Бацька, маці крычаць: «За што вы будзеце яго ўбіваць?» Тут іх чатырох і нас траіх... І мы ўсе памітусіліся. Самі сабой.

Яны, я бачу, наставілі дзве вінтоўкі мне ў галаву выстраліць. Я ж за гэтыя мушкі рукою, за дзве вінтоўкі, як ухапіў за мушкі, дык адну пад паху — гэтак во, пад правую, і заламаў. А яны баяцца, значыць, каб не выстраліць і свайго каб не ўбіць. І мы ўсе, знаеш, бораемся ў дзвярах, у хаце...

Потым зноў бачу, яны мне дзве настаўляюць, каб у галаву ляснуць. Я й за гэтыя вінтоўкі, за дзве. І за мушкі, аво! І пад паху. І вот я гэтак узяў пад пахі тыя вінтоўкі і задам адбіваю дзверы і іх цягну ў сені. Ух! Цягну ў сені. А яны ўперліся нагамі ў парог і за вінтоўкі цягнуць мяне ў хату. І вот я іх дажа перацягваў у сені. Тады адзін дагадаўся, і ўзяў адно: раз! за мой паўшубак, і ўжо ташчыць мяне ў хату. Як ён ужо цягне мяне ў хату, я ўжо не ў сілах было... Ужо як бы яны переваліў мяне ў хату, то я бы ўжо болей не вырабіўся. Не...

А так я ім адно паўшубак свой... Адпускаю вінтоўкі гэтыя і аддаю цераз голаў паўшубак і сам — стрынчака!.. Паўзуном цераз парог да на двор!»

Так уцёк ад смерці брат партызана.

А мы тым часам, адстрэльваючыся, то залягалі, то ўставалі, адыходзілі на Браносава. Страляць даваліся, як кажуць, для попуду, каб не квапіліся даганяць. Карнікі бачылі нас на белай снежнай раўніне, як на далоні, білі з-за гумнаў, абапёршы зброю на вугал ці падмурак, як на стрэльбішчы, забаўляліся сваёй перавагай. Але паранілі ўсяго пару хлопцаў, п'янымі былі бандзюгі. А мароз на чыстаполіцы, як мы пазней даведаліся, падскочыў да трыццаці чатырох градусаў. Зліпаліся, ледзянелі вейкі, голаю рукою дакрануцца да затвора вінтоўкі азначала скалечыцца: прымярзала так скура, што здзіралася з далоні і заставалася крываваю латкаю на стылым метале. Дазналіся, чаму ў салдацкай рукавіцы з правай рукі было тры пальцы.Мы б панеслі большыя страты, адрываючыся ад праціўніка, калі б раптам нехта не заатакаваў карнікаў з супрацьлеглага боку, ад пушчы. У партызан нашай зоны была кагальная завядзёнка: як толькі пачуеш бой — бяжы туды на выручку сваім. Так паступіў камандзір яўрэйскага атрада Юзік: кінуўся ў бой на чале штурмавой групы атрада і ледзь не ўскочыў у Лядкі. Зграча мчаўся без разведкі, палічыў, што партызаны трымаюць Лядкі, а карнікі наступаюць на іх з Турца і Браносава. Юзікавы хлопцы, падобна як і мы, нарваліся на моцную, добра замаскаваную будынкамі, абарону. Шквальным агнём іх прылажылі да стылай зямлі. Панеслі страты забітымі, параненымі, а найболып памарожанымі. Ляжалі ў канаве ўздоўж тракту, закапаўшыся ў снег, што быў гарачэйшы за прысак. Адстрэльваўся Юзік з байцамі, ледзь трымаючы зброю ў задубелых руках, але карнікаў не падпусціў. На шчасце, падаспелі нашы хлопцы-камсамольцы з лесу, ударылі з усходу, выручылі Юзікавых гарачых малайцоў, хто быў яшчэ жывы.

Нам на захадзе ад вёскі была часовая перадышка: агонь па нас прыціх, удалося адысці ад Лядкаў на адлегласць стрэлу. Не спяшаючыся, мы дабрылі да пагорка, пераваліліся цераз яго і ўвайшлі ў Браносава, уліліся ў Міцькаву абарону. Міцькаўцы сустрэлі нас як смельчакоў, раненых і абмарожаных павялі да фельчара, паказалі хаты, дзе можна было перакусіць і абагрэцца. Мне таксама абмазала нейкая добрая гаспадыня нос, вушы і абедзве ступні гусіным шмальцам.

Тактычная сітуацыя змянілася як па заказе: мы апынуліся ў абароне, а праціўніку заставалася наступаць або здрэйфіць і ўцякаць у абход. Нават сонца, перакаціўшыся нізка над гарызонтам, затрымалася ў нас за плячыма. Паміж будынкамі, у зацішку, яно нават магло крыху абаграваць азяблыя патыліцы.

Пайшлі мы з Косцем шукаць Міцьку. Прывіталіся па-сяброўску абдымкамі, ён стаў нас распытваць, што сталася з нашым атрадам. Контратакі карнікаў на левы фланг з Браносава не было відаць. Міцька правёў разведку Кашчыцавага двара, гэта яго трывожыла, але засады там не аказалася, карнікі маглі чакаць падмогі толькі з Баранавіч ці Навагрудка. Свежыя сілы могуць падкрасціся цераз Турэц, Вялікую Слабаду, Вялетава, Тарасавічы ці Рап'ёва. Але правы фланг абароны пакуль што быў бяспечны. Мы дамовіліся, што зоймем пазіцыю на левым флангу ад Вялікай Слабады. Так гаворачы, падышлі да школы, што стаяла ў другім канцы вёскі ад Турца, на пагорку. Міцька аклікнуў назіральніка, што сядзеў недзе на гарышчы з біноклем і ўглядаўся ў навакολле, пераходзячы ад аднаго акенца ў шчыце да другога.

— Ну, што там?! — гукнуў Міцька.

— Пачынаецца, камандзір!

— Что начинается там, черт возьми? Говори ясно!

— З Лядак пачынаецца, высыпалі вунь, як саранча, ажно чорна ад іх...

— Говори дело. Сколько?

— З сотню чорных і столькі мышастых.

— Не мути. Ясно говори! Двести?

— Немцы ў мышастым, баранавіцкае СД, — умяшаўся я.

— Ну, ладно, значит около двухсот.

— Ромка, — пазваў Міцька свайго фарсістага ад'ютанта, апранутага ў нямецка-паліцэйскую форму: чорныя вусікі палоскамі рабілі яго падобным на Гітлера. Так і дражнілі яго «Герман», — объяви боевую готовность. Без команды не стрелять! Всех верховых лошадей вывести за склон и привязать за деревней, на площадке, на случай отступления. Понял?

— Есть, товарищ командир!

— Выполнять!

Міцька ўваходзіў у сваю стыхію, ён прагнуў бою, упіваўся небяспекай, рваўся падаць яшчэ адзін прыклад бясстрашша. З намі ён размаўляў інакш, чым са сваімі: весела, пасяброўску, памятаў, нябось, як ранняю вясной, калі ён уцёк са Свержанскага тартака і далучыўся да групы лейтэнанта Кліма, мы з Косцем узброілі яго дзесяцізарадкай, далі добрую торбу патронаў і пару гранат. Для яго тая зброя стала як бы талісманам дружбы. Нам ён гатовы быў памагчы ў любой патрэбе.

Цяпер мы падаліся ў «свой» канец вёскі, да хлопцаў, займаць абарону. Па дарозе наткнуліся на Колю Перавоза і Шуру Бянецкага, якія выйшлі са двара, уплятаючы хлеб з салам. Паглядзелі на нас весела і Колька прамовіў: «Ад дзяўчат мёдам кормленых вам прывет, а нам во, перакус. Што лепш?» Ён намякаў на браносаўскіх красунь з багатай сям'і, да якіх мы ўтраёх — Перавоз, Косця і я — пару разоў заглядалі пагутарыць. Дзяўчаты звязалі ўсім нам па цёпленькіх навушніках з ангорскай воўны. Коля з Косцем і сённяя адзелі тыя навушнікі, а я паспадзяваўся на зайцаву шапку, нават вушэй не апусціў, хацелася чуць, адкуль страляюць, і прымарозіў вушы. «Хлопцы, жарты набок. Будзе бой. Вярніся каторы і дзяўчатам і бацькам скажы, няхай хаваюцца».

Косця па прыкладзе Міцькі паруліўся і прамажлівы наш адыход: паслаў двух партызан запрэгчы па добрым каню ў двое вымашчаных саломаю развалак, ды прывязаць у крайнім двары ці на загуменні. На выпадак адступлення мы, пешыя, з коннікамі не справімся. Я нагадаў пасланцам папярэдзіць жыхароў, каб хаваліся, хто куды можа: у скляпы, гумны, падпечкі. Будзе бой.

Пакуль мы выйшлі на загуменне, расставілі сваіх, пасунуўшы міцькаўцаў, ланцуг карнікаў паказаўся з-за бугра. Косця пацёр рукі: «О то ж то, мы памяняліся ролямі. Паглядзім, сволач, ці пройдзе гэтае каленца кадрылі — супраць сонца».

— Не разыходзься надта, — перапыніў я аптыміста. — Помні, што другі дыск амаль распшыкаўся. Каб не даваліся з пустою качаргою ў руках пяты падмазваць.

Па ланцугу нашай абароны яшчэ раз прайшло Міцькава папярэджанне: «Без каманды не страляць!» Я стаў угледацца і аб'яўляць адлегласць да праціўніка: «Прыцэл 800, прыцэл 700, прыцэл 600». Па сярэдзіне наступаўшых шыхтоў выдзеліўся вузел кіравання: немцы ў афіцэрскай форме, да якіх і ад якіх бегалі ўлева і ўправа ганцы. Відаць, у камандным ядры ўзнікла нервовасць. Ці не наша маўчанне выдалася ім падазроным, а мо наадварот — сама атака хібная...

«Прыцэл 500», — аб'явіў я цішэй, каб не данеслася да праціўніка. І раптам у нейкага не хапіла вытрымкі: спусціўшы планку прыцэла на 500, стрэліў. Партызаны прынялі адзіночны стрэл за камандзірскі і ўрэзалі залпам па ланцугу. Там падняўся вэрхал, пайшла мітусня. Агнявы адказ карнікаў быў непрыцэльным, шумавым, а нашы кулямёты, дзесяцізарадкі, вінтоўкі не пудлавалі. Забойцы дрогнулі і кінуліся наўцёкі, пакідаючы на снезе трупы. За бугор уцяклі без аглядкі. Адкаціліся, але ў Лядкі зайсці збаяліся. Там паднялася страляніна, відаць, падаспеўшыя з пушчы партызаны спехам занялі паўночны канец Лядак і агнём сустрэлі адступаючых карнікаў. Чорна-мышасты ланцуг зрабіў разварот налева. Прыгнуўшыся, гуськом карнікі падаліся на Кашчыцаў двор, намерваючыся абысці нізінкаю Браносава і шмыгнуць у гарнізон.

Перастрэлка прыціхла. З сярэдзіны Бра-

носава выскачыла група разведкі на конях, галопам памчалася збіраць трафеі: зброю, а ў афіцэраў яшчэ і планшэты ды шынялі з фартовымі каўнярамі.

Наступіў момант трывожнага чакання. Потым з Лядак ці Буковіч нашы зноў павялі абстрэл карнікаў. Недзе з лідскага аэрадрома прыляцеў біплан і, кружачы, стаў пасыпаць без разбору бомбачкамі вёскі вакол Турца. Міцька загадаў партызанам не высоўвацца з Браносава, маскіравацца ад «воздуха», а на гарышча школы паслаў два кулямёты, прыдаў ім снайпераў і загадаў біць зверху па адыходзячых на Турэц карніках. Простым стралкам не дазволіў увязвацца ў гэтую справу: дыстанцыя была вялікаватая, ды і карнікі не надта ішлі, паўзлі на жыватах у свае логавы. Іх вінтоўкамі з зямлі не доймеш, а самалёты наклікаць на вёску, чаго добрага, можна было.

Трафейныя дакументы, здабытыя разведчыкамі, пацвердзілі вестку, што акцыяй кіраваў і галавой заплаціў за разбой начальнік СД Баранавіцкай акругі, а з ім некалькі яго падручных чыноў.

Студзеньскі дзень кароткі. Мы ўвайшлі ў Лядкі па сваіх ранішніх слядах, на змярканні. Лядзецкія хлопцы разбегліся па дварах і хатах.

Я зайшоў у хату майго школьнага сябра Мішы Мажэйкі. Аслупянеў, ператупіўшы парог: у нос ударыў прытарны пах крыві, у кухні было крыві па косткі, газніца высвечвала акрываўленыя трупы жанчын, дзяцей, а над імі стаяў, заламаўшы рукі, непрытомны ад жаху і скрухі гаспадар Уладзімір, Мішаў старэйшы жанаты брат. Жанчыны ўгаварылі яго перад прыходам карнікаў схавацца ў падпечак. Там, з курамі, здранцвелы ён перачакаў расстрэл сям'і, чуў смяротныя стогны сваіх дзяцей, жонкі, бацькоў. Ад перажытага яшчэ не стары мужчына, баявы ў свой час польскі ўлан, што дастойна прайшоў вераснёвую кампанію, тут стаў сівым, як лунь, і непрытомным. Ён ужо і не адыдзе ад таго шоку, нават у атрадзе сярод зычлівых баявых сяброў, Уладзімір застанецца маўклівым, як сцяна, і нелюдзімым. Будзе хірэць, мадзець і хутка памрэ.

А.Саятэвіч пад вечар паслаў сына Андрэя і партызана Івана Навіцкага прывезці цела забітага ў баі пад Лядкамі партызана. Яны якраз трапілі пад аблёт тэрыторыі самалётам, выкліканым карнікамі. Самалёт стаў кружыцца над партызанскімі санямі, двойчы абстраляў іх і падпаліў скінутаю бомбаю хутар, куды схаваліся два партызаны.

Збіраючы матэрыял для кнігі «Я з вогненнай вёскі...», я запісаў успаміны майго ад'ютанта Лявона Уласевіча:

«Я два разы ў партызаны ішоў: першы ў 1942 годзе восенню мы ўдваёх з равеснікам, маладыя, дык старэйшыя хлопцы вывелі нас за сяло, ды вінтоўкі паадбіралі і прагналі нас назад, у вёску. А потым мы зноў знайшлі сабе зброю ды я пайшоў, а таварыш яшчэ крыху счакаўшы. Загінуў, як бой пад Лядкамі быў зімою, Мацка Коліка брат — Петрык. У Цецяруковых тады паліцаі ў хаце стаялі на пасту, пільнавалі, а два немцы зайшлі ў хату, бачаць — там дзеўкі, сёстры Мішы і Валода, такія прыгожыя былі, вачэй не адарваць, дык немцы паказваюць ім: вазьміце вёдры і схадзеце па ваду. А тыя пойдуць і прынясуць. Немцы галовамі круцяць і яшчэ пасылаюць. А тыя нездагадлівыя... тады немцы самі за імі за трэцім разам пайшлі і паказвалі: «Уцякайце!» А яны не скумекалі і не ўцяклі.

Дык як паліцаі пачалі малышак страляць у хаце, немцы выйшлі і пайшлі па вуліцы. А дзяўчаты старэйшыя самі ў рукі прыйшлі, паліцаі іх абоіх забілі.

У Лядках было застрэлена 59 чалавек родзічаў партызан. Сярод іх аказалася і жонка начальніка штаба атрада Барыса Чубрыка. Пры мёртвай маці бацька знайшоў вечарам жывенькае грудное дзіця, дачушку.

Чые сем'і пабіты? Карповічаў сям'ю забілі, Бянецкага Шуркі, Барыса Марозішынага Самуся, Бэча Шуры, Забуку, Мазюка Мішы, у Барысавай хаце дык і ленінградскіх сваякоў, прыезджых пабілі — цётку і двух хлапчукоў, Сабалеўскага сям'ю ды іншых... Карповічавага бацьку забілі ў Мазюковай хаце, сястру Мазюкову забілі, яна жыла адна, і яго. Бэчавага бацьку ў тым канцы вёскі ў чыёйсьці хаце забілі. Сям'ю Мароза. Дзіця ў калысцы забілі, куля ў галаву, дык мазгі і кроў брызнулі і на другое дзіця, што ля калыскі стаяла, і тое, апырсканае кроўю, упала са страху і замерла, ды так і засталося жывым, бо паліцаі падумалі, што яно мёртвае.

На другі дзень Лядкі спалілі ўсе падрад паліцаі з пяці гарнізонаў. Яны згуртаваліся і прысунуліся пад абед, забралі труп таго начальніка СД ды іншых, сілу падцягнулі, адусюль аблажылі Лядкі, спалілі, а людзі, ляднане, паўцякалі ў лес да партызан. Толькі пару хат засталося: Богушава, Лыскава і Міцькава, на тым канцы хаты засталіся, і дваіх паліцаяў лядзецкіх хаты засталіся. Нікога не было ў вёсцы. А паліцаі тыя і цяпер у Турцы жывуць. Адзін гадоў пятнаццаць адсядзеў у Варкуце, цяпер ён ужо начальнік, брыгадзірам ходзіць, будынкі рамантуе, дзве дочкі вывучыліся бухгалтаркамі, а бацька начальнік. І хоць бы хны: і не саромеецца, сабе хату пабудаваў у Турцы — проста закачайся.

Ляжалі двое ў бальніцы разам са мною: адзін партызан, а другі злосны на партызанаў. І той усё чоўп, што партызаны грабілі і нічога не рабілі. Партызан слухаў, маўчаў, а потым не вытрываў, схапіў шклянку з тумбачкі ды як урэзаў таму па галаве, дык адразу ў рэанімацыю павезлі. А ў яго пытаць сталі: чаго ён так, дык той закрычаў: «Каб ведаў, што такое на партызана чаўпці будуць, то бы ў паліцыю пайшоў!»

Амаль усе партызанскія сем'і ў Лядках былі перабіты ад дзядоў да немаўлят. І хто ж удзельнічаў у гэтым злачынстве? Кіравалі гітлераўцы, акупанты, аперацыя планавалася і праводзілася на ўзроўні СД Баранавіцкай акругі. Начальства магло рапартаваць у стаўку фон Розенберга: «Аперацыя па стварэнні мёртвых зон вакол лясных масіваў, якія сталі логавамі бандытаў у Налібоцкай пушчы, прайшла паспяхова, забіта дзве сотні бандытаў і іх агентаў у вёсцы Лядкі. У жорсткім баі з бандытамі, якія папоўніліся новымі сіламі з ляснога масіву, паў смерцю мужных начальнік Баранавіцкага СД і некалькі ніжэйшых чыноў. На падмогу выклікаліся самалёты з аэрадрома ў Лідзе. Насельніцтва і мясцовыя органы парадку прынялі праведзеную акцыю з удзячнасцю».

Так, мясцовая служба старалася: восенню 1941 года перабілі ўсіх савецкіх актывістаў, што не здолелі добра схавацца, яўрэяў у Турцы, Ярэмічах, Карэлічах, Міры — крывёю землякоў сваіх афашысціліся. А восенню 1942 узяліся напару з прыбалтыйскімі карнікамі выбіваць тутэйшае насельніцтва: пачалі з лясных хутароў і пасёлкаў: Рудзьмы, Ціхова, Бярэзінцы. Сіняўскую Слабаду абстралялі, забілі глухога Яўгена Балабановіча за глухату: не пачуў бедалага вокліча «Стой!». Усіх мужчын сагналі за вёску і палажылі тварам да зямлі, падпалілі крайнюю хату Сцяпана Балабановіча і камандзір карнікаў выступіў як Нерон на фоне пажару, выкрыкнуўшы пагрозу, што агонь і смерць чакае ўсіх, хто асмеліцца карміць і падтрымліваць бандытаў. Трое нашых падпольшчыкаў на чале з солтысавым сынком здрэйфілі, самі назаўтра папрасіліся выехаць на работы ў Германію. У несапсаваных людзей гэты акт пацыфікацыі выклікаў яшчэ большую пагарду і нянавісць да акупантаў, асабліва да тутэйшых прыслужнікаў.

Карныя аперацыі, як правіла, праводзіліся прышлымі злучэннямі, былі гэта спецбатальёны, сфарміраваныя ў Прыбалтыцы, на Украіне, былі пагана вядомыя нямецкія крыміналісты пад камандаваннем Дзірлевангера. А часта прыцягваліся да блакад рэгулярныя войскі, якіх адводзілі з франтоў у стан рэзерваў, або на адпачынак.

Амаль усе тыя добраахвотнікі, што вызваліся пайсці на Браносава далучыцца да міцькаўцаў, пагінуць у яшчэ больш цяжкіх і адчайных баях. Ажно чатырох забярэ бой з батальёнам лётчыкаў ці дэсантнікаў, што адпачываў, адкормліваўся ў маёнтку князя Мірскага.

*(Заканчэнне будзе)*


**ЛІМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932-35) |
| І.Гурскі | (1935-41) |
| А.Куляшоў | (1945-46) |
| М.Горцаў | (1947-49) |
| П.Кавалёў | (1949-50) |
| В.Вітка | (1951-57) |
| М.Ткачоў | (1957-59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н.Пашкевіч | (1961-69) |
| Л.Прокша | (1969-72) |
| Х.Жычка | (1972-76) |
| А.Асіпенка | (1976-80) |
| А.Жук | (1980-86) |
| А.Вярцінскі | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась ЗАЛОСКА**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
***намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі** ***332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара** ***332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі** ***331-985***
**літаратурнага жыцця** ***332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі** ***332-204***
**паэзіі і прозы** ***332-204***
**музыкі** ***332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання** ***332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў** ***332-462***
**навін** ***332-462***
**мастацкага афармлення** ***332-204***
**фотакарэспандэнт** ***332-462***
**бухгалтэрыя** ***268-640***





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**
**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 19.05.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


Пошта

# «ЛІЧУ, ШТО СВЯТКАВАЛІ РАНА...»

Убачыўшы ў плане работы Дома літаратара на сакавік 1994 г. мерапрыемства, прысвечанае 200-годдзю з дня нараджэння Яна Баршчэўскага, я мушу сказаць колькі антыюбілейных слоў. На маю думку, 1794 год ніяк не можа з'яўляцца годам нараджэння аўтара «Шляхціца Завальні». Але варта больш падрабязна разгледзець гэтае пытанне.

Першы бібліёграф Я. Баршчэўскага Рамуальд Падбярэскі напачатку ўвёў ва ўжытак 1794 год, але некалькімі радкамі ніжэй кажа, што «блізу 1809 года /.../ меў не больш за 18 год». Гэта стала прычынай таго, што асобныя даследчыкі (Р. Зямкевіч, М. Гарэцкі) давалі веры Юльяну Барташэвічу, які ўпэўнена сцвярджаў, што Я. Баршчэўскі нарадзіўся ў 1790 годзе, і нават свой артыкул-некралог у «Dzienniku Warszawskiem» закончыў фразаю: «Аўтар «Завальні» жыў 61 год».

Доўгі час гэтыя дзве даты нязменна прысутнічалі ва ўсіх энцыклапедыях і падручніках, дзе ішла гаворка пра Я. Баршчэўскага. Але вось у 80-х гг. Б. Табачнік і светлай памяці Г. Каханоўскі адшукалі ў Жытомірскім абласным архіве пахавальную метрыку, якая сведчыць, што Я. Баршчэўскі нарадзіўся ў 1796 ці 1797 годзе. На карысць больш позняе даты нараджэння будуць і ўспаміны самога пісьменніка пра вайну 1812 года, змешчаныя ў «Шляхціцы Завальні» (раздзел «Успаміны пра наведванне роднага краю»), дзе занатаваны ўражанні не сталага чалавека (дваццаці-двухгадовага ці васемнаццацігадовага), а хутчэй за ўсё падлетка. Высвятліць, колькі гадоў было гэтаму падлетку, дапамагае выпіска з метрычнай кнігі Заборскай уніяцкай царквы:

«По указу Его Императорского Величества и по Его состоявшейся резолюции Бело-Русская Греко-Унитская Духовная Консистория рассматривала подлинные метрические книги Поречской, Грицкой и Заборской церквей, в коих нашла записи крещения дворян Иосифа и Викентия Федоровых и Ивана Иванова сыновей Борщевских в следующем содержании:

/.../ Году тысяча семсот дзевяноста дзевятага, месяца снежня 16 дня. Ян вяльможных іхмосцяў паноў Яна і Канстанцыі Баршчэўскіх, рот. аршанскіх, шлюбных малжонкаў, ад вяльможных яго мосці пана Здраеўскага і вяльможнае яе мосці пані Корсакавае да святога хросту трыманы. Ксёндз Юры Хруцкі, пробашч Заборскі.

Каковые метрики, верно из подлинных записей выписанные, даны из Бело-Русской Греко-Унитской Духовной Консистории за подписанием присутствующего и с приложением казенной печати. Сентября 15-го дня 1832 года. Город Полоцк. Вице-председатель — протоиерей Иоан Конюшевский» (ЦДГА ў С.-Пецярбурзе. Ф. 1343. Воп. 17. Спр. 1389. Арк. 24—24 адв.).

Дакумент гэты захоўваецца сярод папер Геральдыі дваранскіх родаў. Нехта Восіп Хведараў, сын Баршчэўскі, клапоцячыся пра будучае сваіх сыноў Мікалая, Яўгена-Вацлава і Рамуальда, звяртаецца з неабходнымі паперамі ў Геральдыю. У справу ўцягваюцца ўсе вядомыя віцебскаму шляхціцу дакументы. Сярод іх і выпіска з метрычнае кнігі Заборскай уніяцкае царквы. Выпіска пра хрост Яна Янавіча Баршчэўскага не датычыць прамой лініі роду Восіпа Баршчэўскага, але старанны пісар Беларускай Грэка-Уніяцкае Духоўнае Кансісторыі далучыў яе да выпісак пра хрост братоў Восіпа і Вінцука Баршчэўскіх.

На жаль, мы нічога не ведаем пра бацьку Яна Баршчэўскага. Дык ідэнтыфікаваць Яна Янавіча і паэта можна толькі ўскосным шляхам. Паспрабуем зрабіць гэта. Па-першае, вёска Мурагі, дзе нарадзіўся паэт, і вёска Забор'е, дзе знаходзілася уніяцкая царква (паводле «Польскага геаграфічнага слоўніка» — гэта адзінае на Віцебшчыне Забор'е з уніяцкаю царквою), размешчаны побач; падругое, не супярэчыць 1799 год хросту і ўражанням Я. Баршчэўскага пра вайну 1812 года; па-трэцяе, хроснаю маці Яна Янавіча была пані Корсакава, а менавіта Юлі Корсак пііла паэт свае лісты з Пецярбурга, называючы «шаноўнаю сястрою» і прыгадваючы «матулю». Дык, думаецца, ёсць падставы лічыць 1799 год годам нараджэння (ва ўсякім выпадку — хросту) Яна Баршчэўскага. Не супярэчыць гэтаму і уніяцкае веравызнанне, якога прытрымлівалася сям'я Баршчэўскіх, — стаць рыма-каталікам можна было і на Бацькаўшчыне, і ў Пецярбурзе. Значных перашкодаў, каб зрабіць гэта, у 20-я і нават на пачатку 30-х гадоў не існавала. Тым больш, што сябар Я. Баршчэўскага Гаўдэнты Шапялевіч працаваў у Дэпартаменце Духоўных спраў Замежных веравызнанняў.

І яшчэ адзін довад на карысць таго, што Я. Баршчэўскі нарадзіўся ў 1799 годзе. І Р. Падбярэскі, і Ю. Барташэвіч называлі Г. Шапялевіча сябрам Я. Баршчэўскага, «таварышам па вучобе ў Полацку». Дык вось Г. Шапялевіч пакінуў езуіцкую акадэмію ў 1820 годзе, маючы дваццаць гадоў ад нараджэння. Аднагодкам Г. Шапялевіча Я. Баршчэўскі, вядома, мог і не быць, але дапусціць, што ён быў на шэсць гадоў старэйшы за аднакласніка, у нас няма падстаў.

Не маючы нічога супраць ушанавання дасюль па-сапраўднаму не зразуметага Яна Баршчэўскага, я лічу, што святкаваць сёння 200-годдзе з дня нараджэння пісьменніка будзе зарана.

**Мікола ХАУСТОВІЧ**

